РЭГІЯНАЛЬНЫ АГЛЯД: ГОРАДНЯ-ВІЛЬНЯ-БЕЛАСТОК ЗАСНАВАНА Ў 1920 г.

# ПАГОНЯ

№ 20 (75) 24 – 30 чэрвеня 1994 г. Кошт 150 рублёў

*У Летуве прастытутка за месяц зарабляе 1500 даляраў, а дырэктар школы - ў дзесяць разоў меней. А ў нас?*

*Сцяпан, унук Сцяпана: "Дзед пражыў жыццё недарма, калі і сёння патрыётаў краіны завуць "бандэраўцамі".*

*Дзьве 13-гадовыя дзяўчынкі вечарам схаваліся ў магазіне "Адзеньне", а апоўначы пачалі "экспрапрыяцыю"...*

**ПРАГРАМА ТЭЛЕБАЧАНЬНЯ НА ТЫДЗЕНЬ:** *Менск – Варшава – Масква.*

## ПРАФЭСАР - ЗА ПАЗЬНЯКА

Восем гадзін раніцы. На выбарчых участках N 24 і 25, што разьмясьціліся ў галоўным корпусе Гарадзенскага мэдінстытута, вельмі людна. Люд сьпяшаецца прагаласаваць. Вось ад урны з бюлетэнямі адыходзіць першы намесьнік рэктара ГДМІ прафэсар В.С.Васільеў.

**- Спадар Васільеў, што прывяло вас сюды так рана?**

- Я прыйшоў, каб працаваць у складзе выбарчай камісіі, а таксама прагаласаваць за адзінага сымпатычнага мне кандыдата ў прэзідэнты - З.С.Пазьняка.

**Г.У.**

## ТРЫПЕРНІКІ Й СЫФІЛІТЫКІ ГАЛАСАВАЛІ ЗА ЛУКАШЭНКУ

Галасаваньне 69 хворых гарадзенскага скурвэнералагічнага дыспансэра дало цікавыя вынікі. 44 пацыэнты аддалі свае галасы за А.Лукашэнку, на другім месцы - А.Дубко (8 галасаоў). В.Кебіч з шасьцю галасамі заняў толькі трэці радок.

**Г.Д.**

* * *

У вабласным інфэкцыйным і чыгуначным вабласным клінічным шпіталях прагаласавалі наступным чынам: Дубко - 12 і 18, Кебіч - 8 і 16, Лукашэнка - 25 і 52, Новікаў - 2 і 5, Пазьняк - 19 і 15, Шушкевіч - 11 і 9 адпаведна. Усяго ўдзел у галасаваньні прынялі 82 і 133 выбаршчыкі. У шпіталі хуткай дапамогі прагаласавала 63 чалавекі, з іх 6 аддалі свае галасы Дубко, 9 - Кебічу, 9 - Лукашэнка, 1 - Новікаву, 10 - Пазьняку, 23 - Шушкевічу, 4 выкрэсьлілі ўсіх. Адзін бюлетэнь прызнаны несапраўдным.

**Д.А.**

## 1 ПРАЦЭНТ ПРАГАЛАСАВАЎ ДАТЭРМІНОВА

Як вядома, заканадаўствам Беларусі прадугледжана, што ў асобных выпадках (камандыроўка, выезд на адпачынак, лячэньне ці іншая неадкладная справа), калі чалавек ня зможа прыняць удзел у галасаваньні на выбарах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па уважлівай прычыне 23 чэрвеня, яму давалася магчымасьць зрабіць гэта датэрмінова з 13 чэрвеня. На 22 чэрвеня 8400 чалавек у Гарадзенскай вобласьці выкарысталі гэтае права, з іх 3624 - 21 чэрвеня. У Гародні датэрмінова прагаласавалі 2857 чалавек.

Цікава, што калі спачатку на выбарчых участках пыталі пра прычыну датэрміновага ўдзелу ў выбарах, то потым гэта ўжо нікога не цікавіла.

## ВЫБАРЧЫ ЎЧАСТАК - НЕ СЯМЕЙНАЯ КУХНЯ

23 чэрвеня. Выбарчы ўчастак N 16. Адзін з выбаршчыкаў вырашыў прагаласаваць за сябе, жонку й цешчу. Але ж сябра выбарчай камісіі сказала, што рабіць так нельга. Выбаршчык растлумачыў, што жонка яго на працы, а цешча ад'ехала адпачываць, таму яны ня змогуць прыняць удзел у галасаваньні. Тады сябра камісіі сказала, што так і адзначыць.

Навошта яна так зрабіла - цяжка сказаць. Невыключна, што каб выкарыстаць незапатрабаваныя бюлетэні на карысьць кандыдата ў Прэзідэнты Беларусі, які ёй больш падабаецца.

**Д.А.**

## ТАЯМНІЧЫЯ ЗВАНКІ

Напярэдадні выбараў першага Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь вечарам у маёй кватэры зазваніў тэлефон. Жаночы голас ад імя нейкага згуртаваньня праваслаўнай інтэлігенцыі папярэдзіў: "За Позняка не голосуй, он нас продаст полякам. Выбор останови на Вячеславе Францевиче, только он воссоединит нас с Россией."

У той жа вечар многія знаёмыя, таксама праваслаўныя, атрымалі вось такія таямнічыя папярэджаньні.

**Г.ЗАНЕМАНСКІ.**

## 300 СТУДЭНТАЎ ЗА БОРТАМ

Каля трохсот студэнтаў Гарадзенскага Дзяржаўнага мэдыцынскага інстытута не было ўнесена ў сьпісы для галасаваньня на выбарах Прэзідэнта Беларусі на выбарчым участку N 25. Гэта адбылося па віне адміністрацыі ВНУ: яна палічыла, што навучэнцы ад'едуць на практыку й таму ня будуць галасаваць у Гародні. На самой справе большасьць з іх засталася ў горадзе.

Дзякуючы намаганьням супрацоўніка інстытута А.Астроўскага й некаторых студэнтаў, навучэнцы 23 чэрвеня былі ўнесены ў сьпісы выбаршчыкаў й атрымалі магчымасьць зрабіць свой выбар.

**Д.А.**

## КАЛІ СТУДЭНТАМ НЯ ЎДАСЦА ПРАГАЛАСАВАЦЬ, ХАЙ АБ ГЭТЫМ ХОЦЬ ВЕДАЕ ГРАМАДЗТВА БЕЛАРУСІ

13 чэрвеня з раніцы ў мястэчка Лунна на практыку прыехала 60 студэнтаў з Менскага пэдагагічнага унівэрсітэта. Натуральна, што прагаласаваць у Менску яны не мелі магчымасьці, паколькі па Закону гэта можна было зрабіць толькі за 10 дзён. Таму студэнты заранёў, па месцу практыкі, падалі заяву на ўчастковую камісію N 25. У камісіі былі не супраць, каб грамадзяне РБ мелі магчымасьць удзельнічаць у выбарах. Аднак у гэта ўмяшалася раённая камісія й студэнтам адмовілі ў праве на галасаваньне.

Зьняважаныя маладыя людзі датэлефанаваліся да нас у рэдакцыю і папрасілі, каб мы паведамілі аб гэтым сваім чытачам.

**(ір).**

## БНФ НЯ МЕСЦА НА ВЫБАРАХ?

Толькі напярэдадні дня выбараў Прэзідэнта назіральнікі ад БНФ атрымалі магчымасьць прысутнічаць на выбарчых участках, што знаходзяцца ў вайсковых частках Гародні. Да 22 чэрвеня яны зрабіць гэта не маглі, бо іх туды не дапускалі. Вайскоўцы матывавалі гэта наступным чынам: вы не далі за два дні заяўкі аб прысутнасьці назіральнікаў у мясцовыя выбарчыя камісіі. Але гэта й ня трэба было рабіць, бо Ўправа БНФ ужо раней зрабіла адпаведную заяўку ў Міністэрства абароны Беларусі, й дазвол быў атрыманы.

Тым ня менш, сябрам гарадзенскай суполкі БНФ спатрэбілася на працягу 22 чэрвеня неаднаразова тэлефанаваць у Цэнтрвыбаркам, зьвяртацца ў вабласную, гарадзкую й раённыя выбарчыя камісіі након гэтага пытаньня, пакуль яно, нарэшце, ня вырашылася станоўча.

**Д.А.**

## РАЗЬВІТАЛЬНАЯ ІМША

Нават выбары першага Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь не змаглі зьнізіць цікаўнасьці вернікаў-каталікоў да разьвітальнай ранішняй імшы Нунцыя Габрыэла Монтагія, якую сьвятая асоба служыла ў гонар разьвітаньня з Беларусьсю ў фарным касьцёле Гародні.

Як зазначыў айцец Анатоль, Нунцый пакідае Беларусь з больлю ў сэрцы. Мы, сьвятары й вернікі, будзем маліцца за яго й чакаць на зямлі беларускай новага пастыра з Ватыкану.

**Г.Н.**

## У ПАДТРЫМКУ «БЕЛАРУСКАЙ МАЛАДЗЁЖНАЙ»

Грамадзка-палітычнае аб'яднаньне імя Кастуся Каліноўскага правяло акцыю па збору подпісаў у падтрымку радыёстанцыі "Беларуская маладзёжная". Старшыня аб'яднаньня В.К.Селязьнёва паведаміла: "Прыкладна за дзень мы сабралі больш 400 подпісаў. Падпісваліся вэтэраны, настаўнікі, моладзь, рабочыя. Адным словам, усе, каму баліць сэрца за свабоду слова. Зараз сьпісы з подпісамі рыхтуюцца да ксэракапіраваньня, потым мы разышлём ксэракопіі да "Свабоды", "Пагоні", "Звязды", "Народнай газэты", а таксама да беларускіх арганізацыяў у блізкім замежжы."

**Г.С.**

## ДЫПЛЁМ БЕЗ ПРАВА НА ПРАЦУ

Днямі адбыўся дзесяты па ліку выпуск урачоў-пэдыятараў у Гарадзенскім дзяржаўным мэдыцынскім інстытуце.

На жаль, пераважная большасьць маладых лекараў атрымала дыплёмы без трацыйнага накіраваньня на працу. Як зазначыла выпускніца ГДМІ Тацьцяна Лаўкевіч, яна атрымала дыплём, на які страчана 6 год жыцьця, і яшчэ невядома колькі часу зыйдзе, пакуль знойдзе працу.

## ШТО ДЗЕНЬ НАСТУПНЫ НАМ РЫХТУЕ

Ізноў для тых, хто зьбіраецца ў дарогу, трэцяя дэкада чэрвеня выдалася змрочнай. Нібы згаварыўшыся, чыгуначнікі й аўтобусьнікі разам узьнялі кошты на білеты.

Каб даехаць экспрэс-аўтобусам з Гародні да Полацку, пасажыру неабходна выдаткаваць з уласнай кішэні 59350 рублёў, да Пінску балет каштуе 28650 рублёў, да Гомеля звычайнаму грамадзяніну білет абыйдзецца ў 76 тысячаў.

Але крыху таньней будзе каштаваць праезд ў той жа Гомель па чыгунцы: за купэ трэба плаціць 40 тысячаў, за плацкартны вагон - 24 тысячы. Пасьцельны камплект каштуе 6 тысячаў.

P.S.: Тым, хто зьбіраецца ў падарожжа да блізкага замежжа, нагадваем, што на адваротны шлях неабходна запасьціся валютай ці хоць расейскімі рублямі.

**Г.ДАМІНІКАНСКІ.**

## «ФІРМОВАЯ» КРАМА

У г.Шчучыне ёсьць фірмовая крама калгаса "Шчучынскі", у якой з "фірмовых" прадуктаў прадаецца адна толькі бульба па 390 рублёў. У астатнім жа на паліцах усе тавары, якія папросту ня могуць прадукавацца ў тамтэйшым калгасе, бо не растуць, да прыкладу, ківі ў Беларусі.

Хвалёныя калгасы, як бачна, займаюца камэрцыяй, каб нашкрэбаць грошай на заробак калгасьнікам. І няхай сабе робяць, толькі б не зьвінелі на цэлы сьвет іх ідэёлагі, што нехта з каапэратараў на кімсьці нажываецца нічога не прадукуючы.

## ЖЫВАПІС АЛЯКСЕЯ ЛОБУРА

На мінулым тыдні ва ўтульнай зале Старога замка ў Гародні адкрылася выстава невядомага пакуль у нас мастака Аляксея Лобура. нават тых, каму даводзілася чуць гэтае імя, зьвязваюць яго болей з прыгожай разьбой па дрэву. Аднак нешматлікія госьці, якія прыйшлі ў гэты дзень на адкрыцьцё выставы, былі па-добраму ўражаныя яркімі й цьмянымі фарбамі мастака, якія быццам дзіўна спаборнічаюць паміж сабой, як добра й зло ў нашым жыцьці. Жывапіс Аляксея Лобура вельмі своеасаблівы й адметны.

Аляксей Лобур нарадзіўся ў горадзе Такмак Запарожскай вобласьці, у 1985 годзе пераехаў у Беларусь у г.Чачэрск Гомельскай вобласьці, а з 1992 года жыве ў Гародні. Пачынаў Аляксей з ганчарства, затым асвоіў рамяство саломкі, заняўся разьбой па дрэву, а жывапісам пачаў займацца яшчэ дваццаць гадоў таму.

**(ір).**

## ПАЛІТЫЧНАЯ СЦЭНА

# ГЕНЭРАЛЫ ПРАМАЎЛЯЛІ, ШЭРАГОЎЦЫ ДРАМАЛІ, А МАЁР ЛАТЫШАЎ ДЗЕЙНІЧАЎ

Зала гарадзенскага Дома афіцэраў на навукова-гістарычнай канфэрэнцыі, прысьвечанай 50-годдзю вызваленьня Беларусі, віравала, іграў аркэстр, падыходзілі сівагаловыя ветэраны. Відаць, каб усё адбывалася ладна і была сувязь пакаленьняў, залу напалову запоўнілі шэраговымі.

Загучаў гімн, той самы, дзе "беларусы з братняю Русьсю разам шукалі да шчасьця дарог". Давялося ўзьняцца і хвіліны дзьве стаяць моўчкі. Пад акампанемэнт гімну сьцяганосцы вынесьлі на сцэну штандары. Дарэмна намагаўся ўбачыць наш дзяржаўны сьцяг. На канфэрэнцыі, прысьвечанай 50-годдзю вызваленьня дзяржавы Беларусь, дзяржаўным сымболям не было месца. Можа, арганізатары забыліся, а можа, хацелася ім дагадзіць сівагаловым ветэранам. Бог ім суддзя за такое сьвятатацтва.

Але на гэтым непрыемныя ўражаньні для каманды газэты "Пагоня" не скончыліся. Наш фотакор, каб добра на здымку адлюстраваць ауру залы, трапіў на бальконі. Як высьветлілася потым, ў гэтае месца забаронены ўваход. Затрымаць "лазутчыка" ўзяўся сам начальнік Дома афіцэраў маёр Латышаў. На ўсялякі выпадак яго падручныя грозна крычалі:"БНФ! Пазьняк!" Затрымка з экспрапрыяцыяй фотаапарату ў "лазутчыка" ім удалася на славу. Ня ведалі бедалагі, што пакуль вялі шпіёна, той на вачох у іх выняў плёнку і аддаў ім ужо пусты "Зеніт".

Дыялог з начальнікам А.Латышавым на пачатку не атрымаўся. Потым пры дапамозе палкоўніка Ліса было нойдзена паразуменьне й рэдакцыйная маёмасьць вернута пры сьведках уладальніку. Гэта, можа, быў самы цікавы й драматычны момант канфэрэнцыі, бо слухаць выступы адстаўных маёраў, палкоўнікаў - што чытаць падручнік па гісторыі для пачаткоўцаў у гады разьвітога сацыялізму.

З мэтай эканоміі газэтнай плошчы й часу чытача мы прыгадаем толькі самыя "цікавыя" выразы прамоўцаў.

Першым распачаў генэрал-маёр В.Ф.Хацкевіч.

Крануўшыся ўскосна апэрацыі "Баграціён", генэрал сягнуў у недалёкую мінуўшчыну: успомніў Аўганістан. Відаць, Валерыю Францавічу тэма аўганскай эпапеі бліжэй, можа, ён там служыў, але ж канфэрэнцыя прысьвечаная 50-годдзю вызваленьня Беларусі ад ярма фашызму...

Пра абаронча ўмацаваньні на Заходняй мяжы на пачатку вайны павінен быў распавесьці палкоўнік сп. Рэшатняк. Якія былі тыя ўмацаваньні, што сабой ўяўлялі, прысутныя й ня чулі. Вось пра тое, што нейкія сілы наўмысна "искажают правду о войне", было слоў досыць.

Больш канкрэтна пра тых, хто кажа ня тую праўду пра вайну, выславіўся маёр у адстаўцы пан Цітоў. Праўда, вядучы абвясьціў іншую тэму:"Роля беларускага народа падчас ВАВ". Пра тую самую ролю ні слова, а "клеветники" вось яны - газэты "Пагоня", "Свабода" ды "Народная газета".

Плакаўся з трыбуны пэнсіянэр прафэсар У.П.Верхась. Таварыш Верхась - самы галоўны ў шэрагах пэкабоўцаў. Таму ўсчуваў камандаваньне беларускага войска аб тым, што тыя мала на занятках у сваіх дакладах ужываюць словы "партыя" і "камуніст".

Былі яшчэ выступы двух пэнсіянераў ад КДБ - старэйшых афіцэраў Р. Абелеўскага і Р.Вільчынскага. Многім іх аповяды нагадалі казку пра мальчыша-кібальчыша.

Прамоўцы прамаўлялі, а шэрагоўцы, якім надакучыла слухаць адное і тое ж некалькі гадзін запар, па-іншаму выкарыстоўвалі час - драмалі. Іх пакой і роўны сап наводзіў на іншыя разважаньні. Нашаму беларускаму войску сапраўды трэба рэформы. Найперш, інтэлекту й духу.

Зьдзейсьніць іх будзе нялёгка, бо, выступаючы з заключным словам, генэрал-лейтэнант Л.С.Мальцаў запэўніў ветэранаў, што іх парады будуць выкананыя.

**Г.АСТРОЎСКІ.**



# ТАМАШ ГРЫБ - ІДЫЁЛАГ БЕЛАРУСКАЙ ЭМІГРАЦЫІ

**У гісторыі БНР нямала вядомых палітычных постацей. Асобнай фігурай тут стаіць Т.Грыб, навуковая праца якога бадай ня вывучана. Між іншым, менавіта ў навуковай спадчыне Т.Грыба найбольш поўна й яскрава адлюстраваны драматычны лёс беларускай эміграцыі 20-х гадоў.**

Тамаш Грыб нарадзіўся ў 1895 годзе. Ва ўзросьце 18 год распачаў вучыцца ў Пецярбургскім унівэрсітэце. Трапіўшы пад уплыў прафэсара Б.Эпімах-Шыпілы, далучыўся да беларускага нацыяналістычнага руху. Браў удзел ва Ўсебеларускім кангрэсе ў Менску (сьнежань 1917 г.). Тамаш Грыб стаяў ля вытокаў БНР, як адзін з тэарэтыкаў. Іграў вызначальную ролю ў распрацоўцы праграмы Беларускай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянэраў (БПСР) у 1920 годзе. У 1922 г. Т.Грыб пераяжджае да Прагі - месца, дзе ў той час знайшлі прытулак многія барацьбіты за незалежную Беларусь. У лісьце да вядомага дзеяча беларускай асьветы ў Латвіі С.Сахарава (1932 г.) Тамаш выказвае жаданьне пераехаць да Вільні, каб быць бліжэй да Радзімы.

У творчай спадчыне Грыба, стрыжнем якой зьяўляецца вучэньне аб незалежнасьці беларускай дзяржавы, неабходна разглядаць два аспэкты: ўнутраны - нацыянальны й зьнешні - міжнародны.

Даючы на старонках пражскага часопіса "Перавясла" нацыянальны ідэал, Тамаш Грыб сьцьвярджае, што незалежная Беларусь павінна ўяўляць сабой краіну, у якой будзе забясьпечаны дабрабыт усіх незалежна ад веравызнаньня й нацыянальнасьці. Барацьба за гэты ідэал будзе весьціся пад штандарам рэвалюцыйнага сацыялізму. Але з гэтай заявы ня трэба лічыць Т.Грыба прыхільнікам сацыялістычнага Ўсходу. Тамаш лічыў, што беларускую дзяржаву нельга будаваць у саюзе з Расеяй. Падыход беларускага тэарэтыка будаваўся на адмоўным успрыяцьці ім ленінскай практыкі пабудовы сацыялізма ў Расеі.

На думку Т.Грыба, Ленін і яго паплечнікі, выкарыстоўваючы НЭП, пайшлі на зговар з буржуазіяй, чым зкампрамэнтавалі ідэю сацыялізма. З другога боку, ён быў упэўнены, што рускія бальшавікі не вырашылі самага балючага пытаньня - самавызначэньне нацы. Гэтую думку Тамаш яскрава выклаў у маніфэсьце "Нашы мэты і задачы".

Пра дзяржаўны лад СССР ён выказваўся так: "Гэта своеасаблівы бакунінскі фэдэралізм фармальна вольных нацый." Тамаш Грыб згадваў, што галоўную небясьпеку незалежнасьці Беларусі нясе цэнтралізм з боку Масквы. Ў СССР права нацый на самавызначэньне, па словах Тамаша, было зьведзена да звычайнай дэкляраці.

Крытычна ставіўся й да лідэра расейскіх эсэраў В.Чарнова ў сувязі з яго неразуменьнем самой сутнасьці нацыянальнага пытаньня. На думку Т.Грыба, перад праблемай нацыянальнага пытаньня спасавалі ня толькі бальшавікі, але й меньшавікі, не знайшоўшы моцы й палітычнай волі для іх вырашэньня.

Суровы падыход браў выток з самога руху беларускай эсэраўскай партыі, песьняром якой быў Т.Грыб. БПСР ня была звычайным адгалінаваньням расейскай эсэраўскай партыі. БПСР зьяўлялася спадкаёмцай БСДГ з яе народніцка-сацыялістычнай ідэялёгіяй.

Па меркаваньнях Т.Грыба, беларускія эсэры непавінны былі йсьці на супрацоўніцтва ні з партыяй Леніна, ні з партыяй Чарнова. Т.Грыб крытыкаваў з пункту левага народніцтва палітыку беларусізацыі, якую ён называў "русіфікацыяй" у новай "турме народаў". Т.Грыб да самага скону заставаўся апанэнтам Савецкай улады. Ён разглядаў праблему незалежнасьці не як самамэту народа, а як мэту больш высокую - мэту вызваленьня ўсіх малых народаў з-пад прыгнёту любой дыктатуры.

Ставячы высокія мэты перад беларускімі сацыялістамі, Т.Грыб не забываў і пра нацыянальныя інтарэсы. Меўшы мару адрадзіць Беларусь у яе нацыянальных межах, ён не адмаўляўся ад ідэі далучыць да Беларусі Смаленшчыну й Браншчыну як тэрыторы, на якіх пражывалі беларусы. Цікава выглядаюць яго адносіны да Віленшчыны. Крытыкуючы В.Ластоўскага за жаданьне зрабіць Вільню летувіска-беларускай сталіцай, ён называў гэта як здраду нацыянальных інтарэсаў. Асабліва адмоўна Тамаш ставіўся да сябра В.Ластоўскага К.Дуж-Душэўскага, які быў за далучэньне Віленшчыны й Гарадзеншчыны да Летувы. Па задуме Дуж-Душэўскага, такі падыход быў прадыктаваны немагчымасьцю беларускай дзяржавы шырыцца на Захад. Для гэтага заходне-беларускія тэрыторы, на думку апошняга, трэба было перадаць Летуве, а беларусам ён прапаноўваў "рухацца на ўсход".

Такія падыходы сваіх апанэнтаў Т.Грыб асудзіў вельмі катэгарычна на старонках бюлетэня замежнай групы БПСР у Празе (1928 г.). Эміграцыя ня мела права, на яго думку, вырашаць праблему спрэчных тэрыторый. Грыб стаяў на пазыцыі мірнага вырашэньня Віленскага пытаньня з улікам волі беларусаў Летувы.

Губляючы сваіх паплечнікаў, Т.Грыб апошнія гады пражыў у адзіноце й бадай забыты памёр у 1938 годзе. Прычыны заўчаснай сьмерці Т.Грыба неабходна найперш шукаць у бескампраміснасьці й нежаданьні прыладкавацца да хутка зьмяняўшыхся палітычных падзей. У адрозьненьне ад сваіх калегаў, Грыб кіраваўся толькі адной ідэяй - ідэяй беларускай незалежнасьці. Таму ня змог прыняць рашэньне аб роспуску БПСР у Менску (1924 г.) і рэзалюцыю Бэрлінскай канфэрэнцыі аб ліквідацыі БНР. Ён быў адным з нямногіх дзеячоў эміграцыі, лічыўшых культурна-прававое становішча беларускага насельніцтва больш прымальным у складзе Польшчы, чым у БССР.

Навуковая спадчына Т.Грыба, што выклікала ў 20-ыя гады шмат спрэчак у асяроддзі беларускай эміграцыі, сёньня выклікае інтарэс гісторыкаў як пасьлядоўная, мэтавая навуковая праца чалавека, які прысьвяціў сваё жыцьцё беларускай дзяржаўнасьці.

**По матэрыялах з прыватных архіваў беларускай эміграцыі ў ЗША.**

# "НА СУД ГІСТОРЫІ"

Кніга пад такой назвай выйшла ў выдавецтве "Мастацкая літаратура". Укладальнікам яе зьяўляецца вядомы Б.І.Сачанка. У ёй зьмешчаны ўспаміны, уражаньні, думкі сьведкаў падзей, што так ці інакш прычыніліся да гісторыі Беларусі, тых, хто стаў яе гонарам. Матэрыялы, што ўвайшлі ў склад кнігі, напісаныя самымі рознымі аўтарамі, сярод іх - Масей Сяднёў, Міхась Забэйда-Суміцкі, Вацлаў Ластоўскі, Натальля Арсеньнева. У большасьці яны друкаваліся за межамі Беларусі, таму былі недаступныя шырокаму колу чытачоў.

Барыс Сачанка бачыць задачу гэтага літаратурна-мастацкага выданьня ў тым, каб "пазнаёміць чытачоў з тым, што доўгія гады хавалася, было мала вядома ці зусім невядома". З кнігі можна даведацца пра цікавыя факты з жыцьця М.Багдановіча, Цёткі, А.Гаруна, Я.Лёсіка, Я.Купалы, Я.Коласа, Л.Геніюш і іншых славутых людзей Беларусі. У ёй зьмешчаны таксама гутаркі з М.Сяднёвым, М.Кавылём, Данчыкам і яго маці, у якіх яны распавядаюць, як апынуліся ў эміграцыі, пра сваё жыцьцё там, выказваюць свае погляды на стан спраў на Беларусі.

**А.ДУК.**

# БАЛЬШАВІЗМ - ГЭТА КАРА БОСКАЯ РАСЕІ

Адзін з запаветаў Божых распавядае нам: не забі. Колькі год пад лёзунгам "ногою твёрдо стать при море" расейскі імпэрыялізм забіваў культуру, традыцыі, мову малых народаў і народнасьцяў. Прыкладаў хоць адбаўляй. Збройны чын Івана Грознага на Чухонь, паходы Пятра Вялікага на землі Літвы, каўказкая "эпапея" цара Мікалая, спіс можна доўжыць ды доўжыць. Але, як сьцьвярджае народная прымаўка, колькі вяровачцы ня віцца, а ўсё адно - канец будзе. Менавіта пад такім вуглом гледжаньня й разглядаецца многімі замежнымі гісторыкамі бальшавіцкая рэвалюцыя ў Расеі 1917 года. Рабіць падрабязны аналіз разнастайных прычынаў рэвалюцыі й вынішчэньня рускай інтэлігэнцыі зараз ня час, бо наноў у Расеі пераважаюць праімпэрскія рэваншысцкія сілы. Пагроза маладым сувэрэнным дзяржавам відавочная, таму некаторым гарачым галавам у Маскве хачу прыгадаць, што кастрычніцкі пераварот - гэта кара Боская Расеі за зьнішчаныя народы, растаптаныя традыцыі. Бог на зямлі й на небе, ён усё бачыць.

Як сьцьвярджае біблейская мудрасьць, за справы чорныя, дзе пануе сіла дэмана й сатаны, прыдзецца адказваць хоць у пятым, хоць у пятнаццатым калене. І аб гэтым трэба памятаць.

**У.ВАСІЛЕВІЧ, праваслаўны вернік, Коўна.**

# ДАГЛЯД ПАТРЭБНЫ І БЕЗ СЬВЯТА

У Горадні на перакрыжаваньні вуліц Савецкай і Дамініканскай (былая К.Цэткін) устаноўлены помнік В.Д.Сакалоўскаму, маршалу, Гэрою Савецкага Саюза, ваеннаму дзеячу, які некаторы час быў Міністрам абароны СССР. Кожны па-рознаму можа ставіцца да асобы гэтага чалавека, нават казаць, што помнік яму ня трэба было ставіць, але калі ж ён быў усталяваны, то патрабуе дагляду. На жаль, гэта ня робіцца, дакладней, амаль ня робіцца. Часам на помнік непрыемна глядзець (вокны рэдакцыі знаходзяцца насупраць), бо бюст маршала часта бывае выпацканы птушыным памётам. Калі йдзе дождж ці сьнег, то ён зьнікае, а ў безападкавае надвор'е ўсё паўтараецца зноў.

Нарэшце аднойчы ля помніка спынілася спэцыяльная машына, і з шланга на бюст палілася вада. Ён стаў мець зусім іншы выгляд: прыемна паглядзець. Хутчэй за ўсё гэта было зроблена невыпадкова, бо набліжаўся Дзень Перамогі (і калі мы, нарэшце, зразумеем, што прыбіраць трэба ня толькі перад прыездам начальства ці напярэдадні сьвята). А што, калі б яго не было ўвогуле? Помнік бы надалей выклікаў агіду ці ўсьмешкі прахожых сваім неэстэтычным выглядам?

Зразумела, у гарадзкіх улад ёсьць шмат важных спраў, але ж трэба памятаць, што помнік можа ня толькі ўпрыгожваць, але й збрыджваць вуліцу, тым больш, калі ён месьціцца ў цэнтры горада - яго твары. Нельга забываць і пра тое, што памяць аб В.Сакалоўскім шануюць шмат людзей, у прыватнасьці, вэтэраны ВАВ. Што, акрамя абурэньня й крыўды, можа выклікаць у іх неахайны выгляд помніка?

**А.ДУК.**

# ПІСЬМЕНЬНІК-ПРАЎДАШУКАЛЬНІК



19 чэрвеня 1994 года споўнілася 70 год з дня нараджэньня вялікага сына беларускага народу Васіля Быкава, які доўгі час жыў і працаваў у нашым горадзе. Гарадзенцы вельмі любяць аповесьці гэтага пісьменьніка, многія ў свой час падтрымлівалі з ім цесны кантакт, бывалі ў яго на кватэры, якая знаходзілася на вуліцы Алега Кашавога (зараз Вялікая Траецкая). В.Быкаў любіў разам са сваімі сябрамі прагульвацца па дагледжаных вуліцах і вулачках нашага гораду, любавацца яго архітэктурнай спадчынай, што натхняла таленавітага пісьменьніка на салідныя здабыткі ў галіне мастацкай літаратуры.

Цэлы разьдзел аповесьці "Дажыць да сьвітаньня" В.Быкаў прысьвяціў апісаньню велічы й незвычайнага хараства старажытнай Горадні. Культурна-этнічныя моманты Гарадзеншчыны назіраюцца ў аповесьці "Пайсьці й не вярнуцца" і іншых творах пісьменьніка.

У пачатку 80-х гадоў у выдавецтве "Мастацкая літаратура" выйшаў чатырохтомнік В.Быкава, дзе зьмешчана яго літаратурная спадчына гарадзенскага пэрыяду. Зараз гэтае выдавецтва рыхтуе да выпуску шосты том новага збору твораў народнага пісьменьніка Беларусі. Новае выданьне папаўняецца творамі В.Быкава, напісанымі ім ужо ў сталіцы рэспублікі.

На пачатковым этапе гэтак званай перабудовы сярод савецкіх журналістаў існавала мода цікавіцца ў вядомых дзеячоў айчыннай культуры: у чым яны бачаць неабходнасьць перабудовы ў сваёй творчай дзейнасьці. Аднойчы такое пытаньне было зададзена й В.Быкаву, на што ён адказаў: "Перад сапраўдным мастаком слова не павінна паўставаць патрэба ў перабудове." Аўтару гэтага выказваньня, сапраўды, не прыйшлося мяняць сваю грамадзянскую пазыцыю й творчыя прынцыпы. Яго літаратурныя здабыткі належаць адзінай творчай індывідуальнасьці. У сваіх аповесьцях В.Быкаў заўсёды гаварыў людзям праўду. Часам гэта былі малапрыкметныя намёкі на нешта страшнае ў нашай нядаўняй гісторыі. Таленавіты літаратар ва ўмовах пільнай цэнзуры знаходзіў выйсьце ў выкарыстаньні вобразаў-сімвалаў, пісаў іншасказальна, загадкава, але больш-менш уважліваму чытачу ўсё было зразумела.

У "Жураўліным крыку" (1959), "Альпійскай баладзе" (1963), "Пастцы" (1962) разам з паказам жорсткай праўды пра германа-савецкую вайну 1941-1945 гг. зроблены яўны акцэнт на трагічныя вынікі калектывізацыі. У аповесьці "Знак бяды" (1982), яшчэ за некалькі гадоў да нейкай там палітыкі галоснасьці, Быкаў ня вытрымаў і пайшоў на адкрытую размову са сваім народам пра яго жахлівае жыцьцё пэрыяду калектывізацыі. Мала таго, праўдашукальнік Быкаў капае глыбей і паказвае вытокі ўсіх бедаў і няшчасьцяў у першых кроках Савецкай улады.

У аповесьці "Сотнікаў" (1970), аўтар паказвае ідэалягічную хваробу 30-40-х гг. Фактычна лінія паводзінаў Сотнікава, яго думкі й памкненьні, яго недарэчны гераізм, які ў выніку адваротнай рэакцыі прывёў да людзкіх ахвяраў, - усё гэта зьяўляецца хваробай Сотнікава ў кантэксьце міфічнай камуністычнай рэчаіснасьці.

У аповесьці "Воўчая зграя" (1975) пісьменьнік мудра паставіў праблемнае пытаньне: хто такі наш сучасьнік, маленства якога супала з гадамі ваеннага ліхалецьця? Аўтар ня даў свайго адказу, чытач павінен быў сам задумацца над духоўным воблікам сваіх сучасьнікаў, над самім сабой, над партыйна-народнымі шляхамі, па якіх разам з усімі савецкімі людзьмі ён "шчасьліва" крочыў да агульнай мэты.

Эпоху перабудовы В.Быкаў сустрэў раманам "Кар'ер" (1985), у якім, нягледзячы на зьдзекі бальшавікоў над айцом Кірылам, яго жонка ўжо пасьля заўчаснай сьмерці мужа сваім словам і ўласным жыцьцёвым прыкладам прапаведуе высокую хрысьціянскую мараль, мір і згоду ў чалавечым грамадзтве, дапамагае параненаму савецкаму афіцэру.

В.Быкаў у сваёй творчасьці заўсёды заставаўся незалежным ад афіцыйнай ідэялёгіі й палітыкі. Такая мастацкая й грамадзянская пазіцыя пісьменьніка шмат у чым зьвязана з тым, што яго творчая індывідуальнасьць складвалася ў часы "хрушчоўскай адлігі". Тым ня менш, відаць, імкненьне В.Быкава заўсёды заставацца самім сабой зьвязана галоўным чынам з яго моцнай асобай, чалавечай сьмеласьцю, творчым дэмакратызмам, цьвёрдай уласнай жыцьцёвай пазыцыяй, багацьцем яго духоўнага сьвету, з высокімі маральнымі якасьцямі шчырага беларуса.

**М.ПАЖАРЫЦКІ,**
**выкладчык Гарадзенскага унівэрсітэту імя Я.Купалы.**

# СКАРГАЙ ХВОРАМУ НЕ ДАПАМОЖАШ

**Нядаўна пры Гарадзенскім вабласным шпіталі створаны мікрахірургічны цэнтр. З загадчыкам новай мэдыцынскай установы Міхаілам Васільевічам Логашам гутарыць карэспандэнт "Пагоні".**



- Тое, што ў Горадні ў няпросты час адкрыўся мікрахірургічны цэнтр на 65 месцаў, нас, мэдыкаў, не зьдзіўляе. Патлумачу, ужо даўно, дзякуючы плённай працы кафэдры афтальмалогіі ГДМІ ў Горадні, створаны выдатны навукова-практычны патэнцыял. Зьдзейсьніць задуманае мяшалі разнастайныя бюракратычныя правалочкі зьверху. Але, як кажуць, няма шчасьця, дык няшчасьце дапамагло.

**- Няўжо нейкі нешчасьлівы выпадак дапамог?**

- Я б не канстатаваў так строга, што няшчасьце. У 1991 годзе разваліўся СССР. Усе сувэрэнныя дзяржавы, што зьявіліся на яго абломках, пачалі дзяліць маёмасьць. Адна справа - жаданьне, другая - вынік дзялёжкі. У нашым выпадку вельмі цікавая сітуацыя.

**- Калі ласка, падрабязьней.**

- Некалі, каб у Маскве змог на поўную сілу запрацаваць інстытут мікрахірургіі Фёдарава, усе рэспублікі ўносілі сродкі. Доля Беларусі па тых часах дзесьці каля сямі ці болей мільёнаў. Разумеецца, у адзін дзень усё гэта засталося недасягальным беларускаму грамадзяніну.

**- Чаму?**

- Скажам так, Расейскае міністэрства аховы здароўя ўстанавіла кошты для грамадзян блізкага замежжа. Адна апэрацыя без выдаткаў на пасьляапэратыўнае лекаваньне каштавала 90 тысячаў расейскіх рублёў. У той жа час ЦБР зацьвердзіў курс 1 да 2. У дадатак інфляцыя, рост суадносін рубля й "зайчыка", падвышка кошту апэрацыі да 140 тысячаў рублёў. Вось і палічыце, у якую капейку выліваецца нашаму чалавеку лекаваньне ў Маскве. Адно гэта прымушала нас дзейнічаць. Выходзілі на самых высокіх чыноў Міністэрства аховы здароўя сувэрэннай Беларусі, тлумачылі, даводзілі, пераконвалі. Нас разумелі, дапамагалі чым кольвечы. Нярэдка, каб неяк патлумачыць сваю бездапаможнасьць, спасылаліся на развалены Саюз, страчаныя сувязі. Адным словам, трапляліся нам аматары на скаргі. Вядома, скаргай хвораму не дапаможаш. І мы вырашылі дзейнічаць самастойна. Скажу шчыра, што ў Горадні знайшлося намнога больш прыхільнікаў стварыць свой мікрахірургічны цэнтр. Адразу ж вызначылася, што ён будзе зарганізаваны на базе вабласнога клінічнага шпіталю.

**- Колькі часу зыйшло на стварэньне цэнтру?**

- Для мяне - дык стагоддзе, а так - прыкладна чатыры гады.

**- Што ўваходзіць у комплекс цэнтру?**

- Раней у Горадні было тры аддзяленьні, дзе лекаваліся хваробы вока. Была маленечкая апэрацыйная на адзін хірургічны стол. Усё гэта цяпер мінуўшчына. Напрыканцы 1993 года скончана будова новага хірургічнага блока на чатыры апэрацыйныя сталы. Для патрэбаў цэнтра перададзена пасьля касмэтычнага рамонту былое аддзяленьне хвароб вока. Тут мы абсталявалі палаты на 65 ложкаў, сматравы й працэдурны пакоі.

**- Якое абсталяваньне, інструктарый мае, як бы мовіць, на ўзбраеньні мікрахірургічны цэнтр?**

- Усё самае сучаснае, неабходнае мы набылі, а падрабязней скажу, што апэрацыйны блок абсталяваны дзякуючы нямецкай фірме Карл-Цэйс-Йена і Санкт-Пецярбургскаму аб'яднаньню "Лома". Гэтыя знакамітыя фірмы паставілі нам электронныя мікраскопы, мікрахірургічны інструмэнтарый, шоўны матэрыял і многае іншае. З імі існуе пагадненьне й на далейшае супрацоўніцтва.

Сматравы пакой у асноўным абсталяваны японскай апаратурай, на якой мы можам дасьледваць любое захворваньне вока. Медыкаменты й перавязачныя матэрыялы часткова атрымліваем цэнтралізавана, часткова з мясцовага бюджэту, нешта купляем самі, нешта прыходзіць з гуманітарнай дапамогай, а часам здараецца, што хворыя прыносяць лекі самі.

**- Што яшчэ, Міхаіл Васільевіч, вы хацелі б мець у цэнтры?**

- Зараз жадаем набыць праз пасрэднікаў кампутарны пэрыметр. З яго дапамогай дасканала вызначым, наколькі можа быць эфэктыўнай тая ці іншая апэрацыя.

**- Калі размова зайшла пра апэрацыі, што можна вылекаваць у мікрахірургічным цэнтры такім шляхам?**

- Як я ўжо казаў, кафэдра хвароб вока распрацавала буйную навуковую праграму лекаваньня самых цяжкіх хвароб вока. Мы апэрыруем катаракту, глаўкому, адслойку сеткі. Ёсьць свае, гарадзенскія распрацоўкі, і яны некалькі розьняцца ад мэтодык інстытута Фёдарава, гэта мэтады лекаваньня міапіі. Таксама тут, у Горадні, імплантуем штучны крышталік. Плануем павялічваць колькасьць апэрацый па імплантацыі крышталіка, бо на Гарадзеншчыне значнымі тэмпамі расьце гэтае захворваньне. Раней памутненьні крышталіка былі пераважна ў людзей пэнсійнага ўзросту. Цяпер гэта ўсё часьцей сустракаецца і ў дзяцей.

Другі накірунак, над якім мы працуем, - гэта распрацоўкі разнастайнага апэратыўнага і кансэрватыўнага лекаваньня. Распрацоўваем іх для таго, каб ня даць хваробе прагрэсаваць, разьвівацца. Калі гэта ўдасца адолець, то многія людзі пазьбегнуць інваліднасьці, нашэньня акуляраў і г.д. Будзе й прыбытак дзяржаве: ня трэба плаціць пэнсій, лісткоў па часовай непрацаздольнасьці.

**- Мікрахірургічны цэнтр добра абсталяваны, працуюць тут высокакваліфікаваныя спэцыялісты. Ці зьвярталіся да яго паслуг грамадзяне іншых краін? Калі так, то на якіх умовах замежныя грамадзяне могуць трапіць на лекаваньне да Горадні?**

- Пацыентаў з блізкага й далёкага замежжа хапае. Найбольш часьцей лекуюцца ў цэнтры грамадзяне Летувы, Польшчы, Украіны. Нямала хворых сёлета трапляе да нас з канфліктных рэгіёнаў. Мы яшчэ нікому не адмаўлялі ў дапамозе. Умовы для іншаземных грамадзян такія ж, як і для грамадзян Беларусі - бясплатныя.

**- Вы казалі, што ў Маскве меддапамога платная, можа й тут, у Горадні, распачаць такое?**

- Ня супраць, але для гэтага патрэбныя законы, ці хоць пастанова ўраду.

**- Дзякуй, Міхаіл Васільевіч, за шчырую гутарку.**

**Г.АСТРОЎСКІ.**

# АДНА НАДЗЕЯ - НА КАМЭРСАНТАЎ

Гарадзенскія фотааматары й майстры ў адчаі: у дзяржаўных крамах горада практычна не прадаюць патрэбных хімрэактываў, паперы, увогуле няма ў продажы чорна-белай фотаплёнкі. Калі раней штосьці з гэтага можна было пашукаць па раёнах, то зараз і на гэта няма надзеі. Іншы раз сёе-тое распрадаюць са старых запасаў камэрцыйныя структуры, але й гэта апошнім часам здараецца рэдка. Калі пакупнікі пытаюць у прадаўцоў спэцыялізаваных аддзелаў, чаму няма фотатавараў, у адказ чуюць, што няма паставак з базы.

Наш карэспандэнт за тлумачэньнямі зьвярнуўся на вабласную базу культгандлю. Як паведамілі ў аддзеле фотатавараў, дэфіцыт апошніх тлумачыцца тым, што на Беларусі іх не вырабляюць, а расейскіх рублёў, каб набыць іх у расейскіх ці ўкраінскіх вытворцаў, не хапае. Існуюць таксама праблемы з разьлікамі (то беларускі, то расейскі банкі не прапускаюць грошы), таму атрымаць прадукцыю можна толькі па бартэру. Адзіная надзея застаецца пакуль на камэрсантаў.

**А.ДУК.**





# ЭКАНОМІКА

## БЕЛАРУСЫ - ДРУГАСОРТНЫЯ, НАВАТ НА РАДЗІМЕ

Грамадзяне Беларусі, што едуць на расейскіх і ўкраінскіх цягніках, якія рухаюцца праз тэрыторыю рэспублікі, сярод праваднікоў лічацца другасортнымі людзьмі. Яны не прызнаюць разьліковыя білеты Нацыянальнага банку Рэспублікі Беларусь за грошы.

Калі вы прosты чалавек і вырашылі дабрацца, напрыклад, з Горадні да Полацка на цягніку N 58 "Варшава - Санкт-Пецярбург", то ня зможаце ні папіць гарбаты, ні паспаць на бялізьне, бо за гэта трэба плаціць альбо расейскімі рублямі, альбо далярамі ЗША. Увіце сабе, білет ў купэйны вагон па гэтаму маршруту каштуе каля 35 тысяч разьліковых білетаў Нацбанку РБ, а бялізна - 2 400 расейскіх, што ў пераліку на "зайцы" складае 25 тысяч (на беларускіх цягніках - 2 000). На ўкраінскіх саставах абслугоўваюць за расейскія рублі, даляры, дойчмаркі, купоны... Але толькі не за "зайцы".

Можна зразумець праваднікоў: не патрэбныя ім нашыя грошы, якія нідзе за межамі Беларусі не каціруюцца, праз банкі не абменьваюцца. Няёмка за краіну, якая сама не паважае сваю грашовую адзінку і ня можа прымусіць зрабіць гэта чужаземцаў.

Д.АЛЕГАЎ.

## ВЯРТАНЬНЕ ДА САМАВАРУ

Каб захаваць працоўныя месцы, кіраўніцтва гарадзенскага завода "Радыёпрыбор" задумала наноў выпускаць некалі зьнятыя з вытворчасьці электрасамавары й прасы.

Намесьнік дырэктара завода па маркэтынгу А.А.Прусак зазначыў: "Час паказаў, што іх зараз моцна не хапае ў нашых крамах. Да таго ж, нашай "старой" прадукцыяй цікавяцца ў Летуве, Латвії, Польшчы, Казахстане, Эстоніі."

Г.АСТРОЎСКІ.

## ПАЧАЛІ З АДНАГО СТАРОГА ДОМА

Упершыню ў гісторыі Слоніма адбыўся аўкцыён. Праўда, вельмі своеасаблівы. Гарадзкія ўлады з асьцярогай выставілі на продаж толькі адзін камунальны аб'ект - дом, які знаходзіцца ў аварыйным стане. Напэўна, каб не чапляліся, што прывытазацыя ў іх не ідзе. Пакупніков было таксама ня шмат, і купіла гэты дом за 90 мільёнаў рублёў камэрцыйная фірма "Аракс", што па-армянску азначае назву нейкай рэчкі.

Што ж, пачатак ёсьць, напэўна будзе й працяг, а ў пераважнай большасьці гарадоў вобласьці не было нават і гэтага.

(ав).

## КАБ ЗУБАМ БЫЛА ПРАЦА, ТРЭБА ГАНДЛЯМ ЗАЙМАЦЦА

Нізкія заробкі прынудзілі некаторых гарадзенскіх дантыстаў шукаць іншыя крыніцы папаўненьня ўласнага бюджэту. Некаторыя спрабуюць сябе ў камэрцыі, некаторыя мяняюць прафэсію, а вось зубны тэхнік Аляксандр В. з вабласной дзіцячай стаматалагічнай паліклінікі вырашыў дзейнічаць нетрадыцыйна. Ён бярэ адпачынак на свой рахунак і едзе на гандаль да краін блізкага замежжа. За месяц працы набягае прыкладна 250 даляраў ЗША.

Адміністрацыя паліклінікі ў роспачы: што будзе, калі й астатнія спэцыялісты пажадаюць вось так "папрацаваць".

Г.ДАМІНІКАНСКІ.

## НЯДОЎГА МУЗЫКА ЙГРАЛА, НЯДОЎГА ЦЕШЫЎСЯ СПАДАР

Нядоўга цешыўся гарадзенец А. шыкоўнасьцю набытага за 13 фунтаў стэрлінгаў на Туманным Альбіёне парасона.

Скарыстаўшы аднойчы пакупку па прызначэньню, незадачлівы гаспадар заўважыў, што ад нашага дажджу парасон зьмяніў колер, а затым тканіна й зусім разышлася.

Каб дасканала вызначыць прычыну, што "паспрыяла" раптоўнаму зьнішчэньню замежнага набытка, гарадзенец вырашыў зьвярнуцца да эколагаў, якія пакуль што ня могуць даць адпаведнага тлумачэньня выпадку.

Г.Н.

## ПАТРАБАВАНЬНІ НЕ ДА ВЫТРЫМАНЬНЯ

"ПАГОНЯ" паведамляла, што адзін заможны гарадзенскі камэрсант трымае слугу. Як стала вядома, ён зьбёг ад гаспадара. Матывам да ўцёкаў паслужылі занадта жорсткія патрабаваньні працадаўцы да абавязкаў прыслугі.

## АД ПЕРАМЕНЫ МЕСЦАЎ ВЫНІК МЯНЯЕЦЦА

"Пагоня" пісала пра дзядзю Сыцёпу са звалкі, які зьмяніў месца сваёй працоўнай дыслакацыі. Нядаўна дзядзя Сыцёпа выпадкова трапіў на вочы карэспандэнту газэты.

- Звалка - гэта ўспамін. Цяпер галоўная праца на гарадзенскіх вуліцах і зонах адпачынку. Зараз галоўны прыбытак прыносяць кінутыя пляшкі. Іх на дзень зьбіраю 40-50. Мне часам сьмешна слухаць з радыё зьвесткі, што народ зьбяднеў. Зазірніце пад кожны куст, і вам ня трэба будзе ехаць да Польшчы гандляваць ці хадзіць працаваць на завод. Дакладна ведаю, што так, як я, на жыцьцё ў Горадні здабываюць больш за 100 чалавек. Я з пагардай стаўлюся да тых, хто сядзіць з працягнутай рукой, бо сам адзінокі, кінуты дзецьмі чалавек. Можа, мой занятак камусьці здаецца ніжэй яго годнасьці, тады згадаю, што я хаджу ў кіно, слухаю радыё, калі выпадзе - гляджу тэлевізар. Я не бяздомны, бо начую ў знаёмых, праўда, заўжды аплочваю. Адзінае, на што крыўдую, - гэта на дзяцей, якіх у мяне чацьвёра: два сыны й дзьве дачкі. У іх сем'і, дзеці, а як хацелася б папесьціць унукаў, куліць ім цукерак.

Распытваў Г.АСТРОЎСКІ.

## ПРАДКАЗАНЬНІ СПРАЎДЖВАЮЦЦА

Як мы ўжо прадказвалі, да дня выбараў беларускага прэзідэнта жыхароў рэспублікі чакае шмат сюрпрызаў, якія зробіць урад, каб забясьпечыць папулярнасьць прэм'ера сярод як мага большай колькасьці выбаршчыкаў.

І вось дачакаліся. Саўмін вырашыў дазволіць набываць білеты на міжгародны й прыгарадны чыгуначны й аўтатранспарт студэнтам вышэйшых і навучэнцам сярэдніх спэцыяльных і прафэсійна-тэхнічных установ у выхадныя й сьвяточныя дні на 50 працэнтаў ніжэй за звычайны кошт да 30 чэрвеня. Ці тое яшчэ будзе?

Д.Г.



## БЫЎ МЛЫН - СТАЛА ДРАБЯРКА

Многа год у г.п. Рось Ваўкавыскага р-на працаваў электрамлын. Сюды вазілі малоць зерне сяляне навакольных вёсак...

Але нечыя дырэктыва аб узбуйненьні мясцовых электроўняў выкінала брудную справу. Турбіну й дынамамашыну замуравалі, а само памяшканьне ператварылі ў драбярку.

Пэрспэктыў адрадзіць млын бадай не існуе, бо ў мясцовага племзавода - цяперашняга гаспадара драбяркі - няма сродкаў. Але пасялкоўцы ўпэўнены, што млын яшчэ будзе працаваць. Яго час надыйдзе тады, калі сяляне атрымаюць зямлю.

І.БАРЫСАЎ.

НА ЗДЫМКУ: млын у пасёлку Рось.
Фатаграфаваў аўтар.

## ЧАЛАВЕК І ЯГО ПРАБЛЕМЫ НАЙЛЕПШ ВІДНЫ НА МЯСЦОВЫМ УЗРОЎНІ

Беларускі рэспубліканскі фонд падтрымкі дэмакратычных рэформаў імя Льва Сапегі правёў у Менску прэсканфэрэнцыю для журналістаў. Як ужо ведаюць нашыя чытачы, фонд зьяўляецца няўрадавай, некамэрцыйнай, непалітычнай грамадзкай арганізацыяй, якая ўяўляе сабой Асацыяцыю дэпутатаў мясцовых Саветаў, навукоўцаў і бізнэсмэнаў, аб'яднаных дзеля працэсу садзеяньня рэформаў сістэмы мясцовых органаў улады.

Гэтым разам прадстаўнікі фонду разаслалі запрашэньні журналістам ці не з усяе Беларусі, паколькі лічаць адной з галоўных задач давесьці да насельніцтва нашай краіны свае мэты. Перад журналістамі выступілі супрацоўнікі і эксперты фонду. На іх думку, чалавек і яго праблемы найбольш відны на мясцовым узроўні, аднак практычна па ўсёй краіне на мейсцах адсутнічае ініцыятыва. Але ўжо зараз відавочна, што рэформы ў мясцовым самакіраваньні насьпелі і ў будучым без іх не абыйсьціся. Да таго, спэцыялісты фонду лічаць, што яны будуць праводзіцца незалежна ад таго, хто стане ў Беларусі прэзыдэнтам.

З іх слоў, самая ідэальная мадэль мясцовага самакіраваньня ў Эўропе, якая найбольш адпавядае Беларусі, - дацкая. Ужо цяпер спэцыялісты фонду займаюцца тым, каб вывучаць вопыт рэформаў у суседніх краінах: Польшчы, Летуве, Расеі, Украіне. Фондам распрацаваная канцэпцыя правядзеньня рэформаў мясцовых органаў улады ў Рэспубліцы Беларусь, якая базіруецца на прынцыпах, выкладзеных Эўрапейскай Хартыяй Тэрытарыяльнага самакіраваньня.

Асноўнымі мэтадамі, якія бачацца сёньня для дасягненьня статутных задач, зьяўляюцца правядзеньне сустрэч, лекцый, сэмінараў, сымпозіумаў, вывучэньне вопыту ў краінах Цэнтральнай і Ўсходняй Эўропы, супрацоўніцтва з міжнароднымі арганізацыямі. Вельмі важным, і аб гэтым шмат гаварылася, зьяўляецца стварэньне інфармацыйна-адукацыйных Цэнтраў у вабласьцях, якія б займаліся выданьнем інфармацыйных матэрыялаў, правядзеньнем сацыялагічных дасьледваньняў, павышэньнем кваліфікацыі супрацоўнікаў фонду. Плануецца, што будзе магчымасьць пасылаць людзей на стажыроўку ў іншыя краіны.

Неадноўчы прадстаўнікі фонду заяўлялі, што яны гатовыя да супрацоўніцтва з усімі дзяржаўнымі структурамі па агульных праблемах рэфармаваньня мясцовых органаў улады. Аднак, як паказвае ўжо такі вопыт, мясцовыя ўлады не з ахвотай да гэтага стаўяцца, паколькі бачаць быццам для сябе пагрозу.

Трэба зазначыць, што прэс-канфэрэнцыя выклікала цікаўнасьць у журналістаў, задавалася мноства пытаньняў, што яшчэ раз сьведчыла аб тых праблемах, над якімі працуюць супрацоўнікі фонду і ў паўсядзённым жыцьці сустракаюць прадстаўнікі прэсы.

У заканчэньні для журналістаў быў аб'яўлены конкурс на лепшае асьвятленьне дзейнасьці органаў мясцовага самакіраваньня і працэса рэформаў у гэтай вобласьці. Конкурс працягнецца да 15 студзеня 1995 года.

М.КАРНЕВІЧ.



САМАЯ СТАРАЯ Ў ЭЎРОПЕ МЯЧЭЦЬ, ПАБУДАВАНАЯ Ў 1450 ГОДЗЕ, в. ДАБУЦІШКІ, СМАРГОНСКІ РАЁН.

# ВІЛЕНСКІЯ ПАВЕДАМЛЕНЬНІ

Падчас візыту ў Францыю прэм'ера Летувы Адольфаса Шляжавічуса летувіская дэлегацыя спаткалася з кіраўніцтвам Французкага банку, мела магчымасьць паглядзець, як захоўваецца ў Францыі золата Летувіскай Рэспублікі. Яна знаходзіцца там з 1938 году - усяго 2246 кілаграмаў. Золата Летува можа забраць назад ужо сёньня, аднак, каб трымаць яго ў сябе, трэба стварыць адпаведныя варункі. Пакуль што, як сказаў дырэктар Летувіскага банку Казіс Раткявічус, прывоз золата не зьяўляецца надзённым пытаньнем. Ня можа быць і мовы пра яго продаж, бо яно зьяўляецца сымболем, прыпамінаючым гісторыю Летувы.

* * *

Пратэстуючы супраць новага палажэньня аб выбарах у рады самакіраваньня, згодна з якім у выбарах могуць браць удзел толькі палітычныя партыі, Саюз палякаў Летувы арганізаваў перад Соймам пікет, да якога далучыліся таксама прадстаўнікі Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны з транспарантамі: "Прэзыдэнт! Памятай, беларусы галасавалі за ЛДПП (Летувіская Дэмакратычная Партыя Працы, якая мае абсалютную большасьць у Сойме) і Бразаўскаса".

Камэнтуючы гэты факт на адной з сустрэч з акрэдытаванымі ў рэспубліцы журналістамі, Бразаўскас сказаў, што грамадзтва яшчэ не сягнула дастаткова высокага палітычнага ўзроўню. На думку прэзідэнта, людзі й партыі павінны кансалідавацца не паводле нацыянальнасьцяў, а паводле палітычных перакананьняў.

* * *

Цэнтр дасьледваньня грамадзкай думкі й рынку "Вільморус" правёў шырокае апытаньне грамадзян Летувы. Сярод пытаньняў было адно, якое датычыцца падпісанага нядаўна прэзідэнтамі Летувы й Польшчы дагавору.

На пытаньне, ці ў дагаворы трэба зазначыць, што "Вільня зьяўляецца адвечнай гістарычнай сталіцай Летувы", 91% рэспандэнтаў адказаў "так", 17% - "не", 1% - устрымаўся ад выказваньня.

74% рэспандэнтаў зазначыла ў той жа час, што ў дагаворы трэба напісаць: "Тое, што ў 1920-1939 гг. усходняя частка Летувы была была захоплена Польшчай, ня можа мець аніякага прававога выніку" (21% адказаў "не", 5% - устрымаліся). За тое, каб гэтыя фармулёўкі былі запісаны ў дагаворы, выказаліся рэспандэнты ўсіх палітычных арыентацыяў, у тым ліку й нацыянальныя меншасьці.

* * *

Адна з найбольш папулярных газэт "Рэспубліка" апублікавала артыкул Саўлюса Поцюса пра катастрафічны стан школы ў Летуве. Вось толькі адзін абзац: "У выніку мізэрнага заробку са школ адыйшлі найлепшыя спэцыялісты, перад усім мужчыны, няма каму выкладаць асобныя прадметы, асабліва замежныя мовы, натуецца вялікая плыннасьць кадраў, маладыя спэцыялісты ня хочуць тут працаваць, у вясковых школах працуюць пераважна пэнсіянэры, якія таксама адойдуць. Стан старых школаў катастрафічны, ня гаворачы ўжо пра эстэтычны бок (адзін немец, убачыўшы нашу школу, сказаў: "Ня пусьціў бы сваіх дзяцей у такую школу"). І што можна падумаць пра такую дзяржаву, у якой за зарплату настаўніка можна спажыць толькі некалькі абедаў у рэстарацыі, дзе дырэктар школы зарабляе ў месяц столькі, колькі прастытутка за тры гадзіны? Калі справы пойдуць так і далей, дык поўнае фіяска рэформы асьветы наступіць за 3-4 гады.

* * *

У распараджэньні Віленскага гарадзкога аддзела аховы здароўя знаходзіцца 12 шпіталяў, 12 паліклінік для дарослых і 7 для дзяцей. Бюджэт горада зьбірае на 30 працэнтаў дадаткаў менш, чым трэба, а гэта значыць, што столькі ж сродкаў нехапае й лячэбным пляцоўкам.

Як сказаў галоўны ўрач 2-га віленскага шпіталя С.Мінкявічус у інтэрв'ю для адной з газэт, ня ўсе працаўнікі атрымалі зарплату за красавік, зьменшаны харчовыя пайкі для хворых. Даўгі складацюць 350 тысяч літаў, шпіталь жа штомесяц патрабуе звыш 380 тысячаў. Паводле слоў галоўнага бугалтара В.Валадковіча, у траўні было ўзята 4 тысячы літаў на аплату харчу й лекаў з грошай, прызначаных на зарплату. Падобная сітуацыя ва ўсіх лячэбных кропках Летувы.

* * *

Пра начное жыцьцё Вільні інфармуе сваіх чытачоў віленская газэта "Летувос рытас". "Прастытуцыяй займаюцца таксама ў рэстарацыі з вар'етэ на першым паверсе гатэлю "Летува". Толькі тут, у адрозьненьні ад бару на 22 паверсе, дзе прыймаюць наведвальнікаў паненкі з былога Саюзу, працуюць пераважна мясцовыя. У гэтай рэстарацыі найстарэйшай прафэсіяй займаецца 5-6 "штатных" работніцаў, яшчэ некалькі прыходзяць сюды на дадатковы заробак.

Хоць бар на 22 певерсе й лічыцца больш прэстыжным, чым рэстарацыя на першым (там зьбіраецца больш салідная й багатая кліентура), аднак дзяўчыны з першага паверху зарабляюць больш ад сваіх каляжанак зьверху. Як казалі дзяўчыны з першага паверху, за дзьве гадзіны "каханьня" таксама атрымоўваюць па 100 даляраў, аднак працадаўцы Рэнаце аддаюць толькі палову. Яны казалі, што за месяц зарабляюць у сярэднім паўтары тысячы даляраў.

Паміж дзяўчынамі з першага й 22 паверху пануюць сяброўскія стасункі. Часам, калі кліентаў ёсьць асабліва шмат, дзяўчыны з першага паверху ідуць наверх албо наадварот".

**Уладзіслаў СТРУМІЛА.**

# ВЕСТКІ З ПОЛЬШЧЫ

У мінулую нядзелю ў Польшчы адбыліся выбары ў мясцовыя ворганы самакіраваньня. Новыя кандыдаты, абраныя ў самаўрады, пераймуць уладу на будучыя чатыры гады.

* * *

"Да двухтысячнага года кожная сям'я ў Польшчы будзе мець уласны тэлефон," - заявіў на прэс-канфэрэнцыі ў Варшаве міністар сувязі А.Зялінскі. На працягу апошніх чатырох гадоў колькасьць тэлефонаў на 100 жыхароў павялічылася з 8 да 12. Плануецца таксама, што ў будучым аплата за тэлефонныя размовы панізіца.

* * *

Кардынал Польшчы Ю.Глемп, выступаючы на канфэрэнцыі ў Ломжы, заявіў, што правячая партыя ў краіне "Левіца", калі выйграе выбары і ў мясцовае самаўрады, вернецца да цэнтралізацыі ўлады, як гэта было пры камуністах.

* * *

У Польшчы адбыўся міжнародны з'езд украінцаў, у якім узялі ўдзел прадстаўнікі дыяспар з усяго сьвету.

* * *

Сэйм Польшчы прыняў папраўкі да крымінальнага кодэксу, згодна якіх дапускаецца праводзіць аборты ў выпадках, калі гэта пагражае здароўю жанчыны.

* * *

Кракаўская паліцыя арыштавала шэфа самай вялікай у Польшчы банды, якая займалася фальшываманецтвам. У гэтым годзе ён ужо быў аднойчы арыштаваны, аднак зьбег з пад арышту.

* * *

Трох чыгуначнікаў з Яроціма разабралі 18-мятровы кавалак чыгункі й намерваліся прадаць гэта ў пункце скупкі мэталаў. Прадаць не ўдалося.

* * *

У мікрараёне Лясная даліна Беластока пачаў працаваць першы пракат ravароў. Скарыстаць з яго могуць і беларускія турысты. Кошт ровара за суткі 10 тысяч злотых.

**Па матэрыялах польскага друку.**

*ВІЛЕНСКАЙ БЕЛАРУСКАЙ ГІМНАЗІІ - 75 ГАДОЎ*

# «ГЭТА БЫЛІ ЦУДОЎНЫЯ ГАДЫ...»

**З выпускніком Віленскай гімназіі 1937 года спадаром Лявонам ЛУЦКЕВІЧАМ гутарыць Уладзіслаў СТРУМІЛА**

**- Спадар Луцкевіч, я хацеў бы пачаць ab ovo.**

- Так, сёлета мы сьвяткуем 75-годдзе. Заняткі 1919 года пачаліся ў лютым, і тое, што мы сьвяткуем падзею ў траўні - гэта пэўная ўмоўнасьць. Сёньняшні юбілей хутчэй бы пасаваў да другога, больш сумнага - 50-годдзя ліквідацыі гімназіі. А цяпер пра пачаткі. Першая магчымасьць стварыць на Віленшчыне беларускія школкі зьявілася пасьля адступленьня расейскай арміі ў 1915 годзе. Нямецкія ўлады былі больш ліберальныя да ўсіх нацыянальнасьцяў. Расейцы - вось хто быў для іх вораг, а палякі, беларусы, летувісы - усе, хто жыў тады ў Вільні, былі для немцаў аднолькавымі. Пры пэўных намаганьнях можна было пачаць тварэньне беларускай школьнай сістэмы. Былі адчынены настаўніцкія курсы, падрыхтоўка вялася да 1919 года й таму даволі пасьпяхова ўдалося арганізаваць гімназію. Дадзеныя, што я маю, сьведчаць, што ў беларускіх клясах, якія ёсьць у 17-ай расейскай школе ў Вільні, на сёньняшні дзень вучацца больш сотні вучняў. А вось у першы год ВБГ набрала каля 400 навучэнцаў. Пэдагагічны калектыў лічыў каля 20 выкладчыкаў. Гімназія была заснавана ў славутых Базыльянскіх мурах, дзе яна й праіснавала да пачатку вайны.

**- Хто быў ініцыятарам, рухавіком гэтага пачынаньня?**

- На Віленскім груньце такім лідэрам быў мой дзядзька Іван. Ён даў асноўны штуршок і ўваходзіў у склад ініцыятыўнай групы, якая й ажыцьцявіла адкрыцьцё гімназіі. У гэтую групу ўваходзілі ксёндз Адам Станкевіч, жонка Максіма Гарэцкага Леаніла Чарняўская, Юлія Мэнке, якая, будучы немкай, дапамагала перад нямецкімі ўладамі дамагацца адкрыцьця. А яшчэ была Алёна Сакалова, якая па сутнасьці напрацягу ўсяго існаваньня гімназіі выкладала беларускую мову. У 1944, апошнім годзе існаваньня гімназіі, прэзідэнт Беларускай Цэнтральнай Рады ўдэкараваў яе з нагоды 25-годдзя гімназіі мэдалём, а калі прыйшло так званае вызваленьне, ёй за чыста асьветніцкую работу ўляпілі 6 ці 10 гадоў - ужо не памятаю. Як раз яна найменш магла быць зьвязана з якой кольвечы палітыкай - яна выкладала ў малодшых класах мову, нават не літаратуру.

**- Як вы ўспамінаеце гады вучобы ў ВБГ?**

- Для мяне гэта былі цудоўныя гады, ад іх засталіся найлепшыя ўспаміны. Атмасфэра ў гімназіі была вельмі добрая. Тут групаваліся сапраўдныя ідэйныя настаўнікі. Я вучыўся паміж 1931 і 1937 гадамі. Беларускую літаратуру выкладаў у нас паэт Хведар Ільяшэвіч. А да гэтага працавалі пісьменьнік Міксім Гарэцкі, Антон Навіна (Антон Луцкевіч - мой бацька), знаны літаратурны крытык, Ігнат Дварчанін, таксама знаны чалавек, які выдаў у 27 годзе хрэстаматыю новай беларускай літаратуры. Гэтая кніжка й цяпер зьяўляецца бібліяграфічнай рэдкасьцю. Я пералічыў толькі выкладчыкаў літаратуры, якія надавалі настрой, выхоўвалі патрыятычныя пачуцьці. Матэматыку й фізыку выкладаў у мяне малады настаўнік Барыс Кіт, які пасьля вайны выехаў на Захад, адзін з найбольш паважаных сёньня людзей у галіне астранаўтыкі. Польскую мову выкладалі дзьве пані: пані Аляксандровічова й пані Адольфова, а літаратуру - Уладзіслаў Глухоўскі. Выкладалі вельмі добра, бо й сёньня былыя гімназісты на шмат лепш размаўляюць па-польску, чым некаторыя мясцовыя палякі, нават і выпускнікі віленскай паляністыкі. А калі ўжо зайшла гаворка пра людзей, якія працавалі ў гімназіі, дык трэба прыгадаць і Янку Хвораста, які быў кіраўніком ансамбля танцаў, і мастака Драздовіча, хорам кіраваў Рыгор Шырма, а Баляслаў Грабінскі, наш стаматолаг, быў, мовячы сёньняшняй тэрміналёгіяй, спонсарам усіх беларускіх імпрэзаў. У гімназіі былі беларускія скауты, быў вучнёўскі каапэратыў, выдаваўся часопіс друкарскім спосабам "Вучнёўскі звон". Жыцьцё кіпела.

**- А з чаго жыла гімназія?**

- Гімназія ўтварылася па ініцыятыве Камітэту Дапамогі Ахвярам Вайны. Гэта й быў першы, як бы мовіць, гаспадар. Усе чарговыя ўлады зацьвярджалі гімназію, але як установу, якая існавала на грамадзкіх пачатках. За польскіх часоў узьнікла Таварыства Беларускай Школы (дарэчы, яно адрадзіла сваё існаваньне сёньня, хаця яшчэ не ў такім шырокім памеры, як некалі), а з 1928 года гімназія была ў валоданьні бацькоўскага камітэту. І ўрэшце, на пачатку 30-ых яна стала дзяржаўнай установай. У 1928 годзе гімназія, па-сутнасьці, першы раз атрымала поўныя правы, г.зн. пры ёй можна было здаваць матуру. Калі гімназія стала дзяржаўнай, яна шмат што страціла са сваюй самастойнасьці. У 30-х гадах была праведзена школьная рэформа. Васьмігадовыя гімназіі былі рэарганізаваныя. Дзьве першыя класы былі адрэзаны ўнізе, а з двух апошніх класаў былі створаны ліцэі: агульнаасьветніцкія ці, нават, спэцыялізаваныя. Я, напрыклад, скончыў тэхнічны. Беларусы з васьмікласавай гімназіі страцілі чатыры класы, а на адкрыцьцё ліцэя дазвол не атрымалі, бо ў гэтыя гады ўлады Польшчы ставіліся вельмі ўжо негатыўна да беларускай асьветы. Былі зачыненыя гімназіі, якія існавалі ў Наваградку, Клецку, Радашковічах. Вялікія намаганьні прыкладваліся, каб зьліквідаваць і Віленскую гімназію, але яна не паддавалася, дык яе ўрэшце зрабілі філіяй польскай гімназіі ім.Славацкага, што мясьцілася пры Дамініканскай вуліцы. У такім стане яна й завяршыла сваё існаваньне.

**- У гімназіі вучыліся дзеці толькі беларусаў?**

- Напачатку было многа нацыянальнасьцяў, асабліва шмат было прадстаўнікоў габрэйскага насельніцтва. Ведаеце, народ у нас часам вельмі няўстойлівы з нацыянальнага пункту гледжаньня, і цяжка правесьці рысу паміж тутэйшым беларусам і тутэйшым палякам, бо некаторыя лічаць сябе палякамі, а гавораць па-беларуску. Вось гэты элемэнт і папаўняў нашу гімназію. З часам, калі паўставалі гімназіі іншых нацыянальнасьцяў, дык застаўся беларускі элемэнт. Сярод маіх аднагодкаў ужо, напрыклад, не было небеларусаў. Трэба сказаць, што ў нашай гімназіі была выключная нацыянальная і рэлігійная талерантнасьць.

**- Пасьля вайны з боку беларусаў былі нейкія намаганьні, каб аднавіць дзейнасьць гімназіі?**

- Справа ў тым, што не было каму гэтым займацца. Першы ўдар па беларускай інтэлігэнцыі быў нанесены ў 1939 годзе. Другі этап генацыду адбыўся пасьля так званага вызваленьня. Апошні дырэктар гімназіі Франук Грышкевіч быў арыштаваны й згінуў падчас сьледзтва. Згінуў і ксёндз Адам Станкевіч. Усе, хто хоць крыху праяўляў грамадзкую актыўнасьць, былі зьнішчаны. Хто ж мог дапамагчы? Ня было каму.

**- І сама ўлада не была зацікаўлена?**

- Безумоўна не. І гэта, пэўна, быў загад з Масквы, каб недапусьціць аніякага беларускага грамадзкага жыцьця на Віленшчыне (а гэта заўсёды быў вельмі моцны асяродак беларусаў) у той час, калі ўсё культурнае й грамадзкае жыцьцё беларусаў ліквідавалася ў самой Беларусі. І цяпер вельмі цяжка нешта выпраўляць. І калі прыгадваеш пачатак нашага адраджэньня напачатку стагоддзя й далейшае разьвіцьцё беларускасьці, дык трэба аб'ектыўна канстатаваць, што становішча беларусаў на гэтах землях было куды лепшае й больш спрыяльнае, чым сёньня. Сёньня яно ўсё яшчэ знаходзіцца пад націскам старэатыпаў, якія ўзьніклі ў нешчасьлівыя пасьляваенныя гады. Нас проста не заўважаюць, ігнаруюць, і таму вельмі цяжка.

**- Але, відаць нямала залежыць і ад людзей? Можа тыя, што былі напачатку стагоддзя, былі больш ініцыятыўныя, больш прасякнутыя духам беларускасьці?**

- З гэтым трэба таксама пагадзіцца. Тым, што былі калісьці больш актыўныя, сёньня па 70-80 год і спадзявацца ад іх актыўнасьці ўжо нельга. А сярэдняе й малодшае пакаленьне - гэта элемэнты таталітарнай сістэмы. Ім цяжка знайсьці ў сябе сілу да грамадзкай працы. Калі гаварыць пра сярэдняга чалавека напачатку нашага адраджэньня, дык ён ня быў закрануты ўплывам, ня меў акрэсьленай самасьвядомасьці, але яму вельмі лёгка было яе ўспрыняць у залежнасьці ад таго, на якой мове ён гаворыць. Да сёньняшняга дня беларускае насельніцтва ня можа перасіліць адчуваньня, што ягоная мова зьяўляецца простай мовай, што ня мае аніякай назвы. Вось і задумваюцца сёньня маладыя сем'і: ці пасылаць, ці не пасылаць сваё дзіця да беларускай класы. Але хочацца трымацца добрай думкі, хочацца спадзявацца, што адраджэньне беларускасьці на Віленшчыне набярэ новы размах.

# «ДОБРЫ ДЗЕНЬ! Я - СЬЦЯПАН БАНДЭРА»

**Пад час першага неафіцыйнага візыта на гістарычную радзіму свайго дзеда - кіраўніка ўкраінскага нацыянальна-вызваленчага руху Сьцяпана Бандэры - яго ўнука Сьцяпана, карэспандэнт украінскай маладзёжнай газэты "Молодь країни" сустрэўся з ім у адным з гатэляў Кіева.**

**Газэта "Пагоня" друкуе размову з унукам знакамітага ўкраінца.**

Колькі слоў пра суразмоўцу. Сьцяпан Бандэра нарадзіўся ў Канадзе. Ягоны бацька Андрэй заснаваў англамоўную ўкраінскую газэту "Юкрэйніан еко", якая надае інфармацыю пра Ўкраіну тым чытачам, што не валодаюць украінскай мовай.

Бацька Сьцяпана Бандэры памёр у 1984 годзе, на 37-ым годзе жыцьця. Газэта працягвае існаваць дзякуючы Сьцяпану, які ёй аказвае разнастайную дапамогу.

Жыве ён з маці й двума сёстрамі ў Таронта, дзе ходзіць на студыя да мясцовага ўнівэрсітэту. Зараз вывучае гісторыю й эканоміку. Асабліва тыя разьдзелы, што тычацца гісторыі СССР. Пасьля чатырох год навучаньня будзе трымаць іспыты на факультэт журналістыкі.

На Ўкраіну Сьцяпан прыехаў з гуртам сяброў. На бацькаўшчыну прывёз друкарскае абсталяваньне й кампутарны выдавецкі комплекс. На гэтай тэхніцы друкаваліся агітацыйныя ўлёткі да рэфэрэндуму. Сьцяпан з сябрамі правёў курс навучаньня па эксплуатацыі кампутарнага й друкарскага абсталяваньня, а затым перадаў тэхніку на патрэбы дэмакратычных арганізацыяў Украіны.

Сустрэча са Сьцяпанам адбылася за дзень да яго ад'езду з Кіева. Размова распачалася з таго, як Лявон Макаравіч Краўчук быў у Таронта. Сьцяпан сустрэў прэзідэнта словамі: "Здрастуйте! Я - Степан Бандэра." Потым пану Краўчуку ён задаў шэраг пытаньняў. Найперш, аб магчымасьці ўсталяваць помнік яго дзеду хоць бы ў яго роднай вёсцы. Сьцяпан не жадае, каб помнікі дзеду ставіліся ў кожным раёне, як да нядаўняга часу Леніну.

Пан Краўчук моцна сьпяшаў і дакладнага адказу на пытаньне ня даў. Але ўнук знакамітага ўкраінскага змагара за незалежнасьць упэўнены, што прэзідэнт даў бы станоўчы адказ. Яшчэ Сьцяпан мае мару жыцьця рэшткі з магілы дзеда перавезьці на радзіму. Верыць, што прыйдзе дзень, і мара зьдзейсьніцца. Таксама як і тое, што многа ўкраінцаў, якія жывуць на выгнаньні, змогуць вярнуцца на Ўкраіну.

Пра дабрабыт распавядае так: "У Канадзе й ЗША матэрыяльна жыць значна лепей, зручней. Прыехаўшы на бацькаўшчыну, я пазнаў шмат людзей глыбока духоўных, мудрых, добрых. Гэтых якасьцяў дужа нехапае ў дзяржавах разьвітога Захаду. Упэўнены, што і на Радзіме дзеда будзе заможнае жыцьцё, бо ёсьць тут мноства людзей з высокім патрыятычным духам. Менавіта духоўнасьць і вабіць сюды такіх людзей, як я. Мае вытокі ў Канадзе сягаюць аднаго пакаленьня. На Ўкраіне - тысячу год."

Памяць сваіх вытокаў, як і памяць пра дзеда, Сьцяпан дужа шануе. Але ніколі і ў нікога не зьбіраецца прасіць прабачэньня за дзеда. У той час, калі ён дзейнічаў і тыя, хто быў ягоным атачэньнем, рабілі збройны чын за Радзіму, як таго вымагаў час. Той факт, што сёньняшніх патрыётаў, выступаючых за волю й незалежнасьць, наймянуюць "бандэраўцамі", пераконвае Сьцяпана, што дзед пражыў жыцьцё недарма.

Вывучаючы дакумэнты, лісты з дзедавага архіва, ён зразумеў, што яго продак жадаў, каб рух вызваленьня Ўкраіны быў дынамічным, але з удакладненьнем асаблівасьцяў палітычнага моманту. Тое, што было надзённа ў 40-ыя, сёньня - ўжо адыйшло да гісторыі. На погляд Сьцяпана, засталося два пытаньні, якіх нельга адмовіцца. Першае - безкампрамісная барацьба за вольную саборную Ўкраіну - Эўрапэйскую дзяржаву. Другое - весьці барацьбу неабходна ўласнымі сіламі, бо волі бацькаўшчыне ніхто ня прынясе, як і ніхто за яе гэтае ня зьдзейсьніць.

Украіна ў асобе грамадзян не пакладаючы рук павінна будзе працаваць, будаваць уласную эканоміку й карыстацца плёнам працы на ўласнае квітненьне. І калі будзе так, то хутка яна стане незалежнай.

Да гэтай высновы Сьцяпан прыйшоў штудзіруючы напісаную дзедам кнігу "Перспективи украінской рэвалюциі", а яшчэ выданьне доктара Пятра Мірчука "Нарис історії ОУН". Каб зразумець, чаго варта постаць Сьцяпана Бандэры ў руху "ОУН", Сьцяпан радзіць прачытаць кніжку таго ж П.Мірчука "В німецьких млинах смерті", дзе аналізуюцца інсінуацыі пра нацыяналістычны рух і Бандэру, як памагатых фашыстаў. Дзед Сьцяпан Бандэра сам сядзеў у канцлягеру, двое братоў яго загінулі ў фашыстіоўскіх засьценках. Хто прачытае гэтую навуковую кніжку - дойдзе да ісьціны.

Таму Сьцяпан і прыехаў на Ўкраіну, якая зараз стаіць на раздарожжы, каб справай, аповядам дапамагчы гістарычнай Радзіме выстаяць, выпраміцца.

Гэта выключны момант, бо раней дарога сюды была забаронена. Трэба сьпяшаць казаць праўду, рабіць справу, бо ёсьць шмат людзей, што сумуюць па часах разьвітога сацыялізму, калі крамы былі поўныя.

Пра ўражаньні падчас кароткай пабыўкі Сьцяпан канстатуе так: "Мяне моцна ўразіў рэкет. Ён паўсюдна. Спадзяюся, што ў незалежнай краіне барацьба з гэтай праблемай будзе галоўнай." Верыць ён і ў духоўнае адраджэньне Ўкраіны, бо прыйдзе час, калі кожны ўкраінец пераацэніць сябе, выкіне з душы чырвоны-камуністычны дух. А прыйдзе такое толькі тады, калі людзі змогуць ня цяжка працаваць і шмат зарабляць. Але, каб гэта зьдзейсьнілася, найперш трэба вера, цярплівасьць і дужа самаахвярнай працы.

Украінская дыяспара на Захадзе будзе заўжды дапамагаць, але ж доля, воля й пашана бацькаўшчыны будзе вырашацца тут, на зямлі, дзе прайшло дзяцінства й дзейнасьць такіх патрыётаў Украіны, як Сьцяпан Бандэра.

# МЯККА СЬЦЕЛЮЦЬ - ЖОРСТКА СПАЦЬ



"Алё, гэта рэдакцыя? Я нядаўна прыехала з Нямеччыны, хацелася б падзяліцца некаторымі ўражаньнямі."

У вызначаны час адбылася сустрэча.

Яна хутка зьявілася - высокая, апранутая ў фірмовы летнік. Працягнуўшы для прывітаньня руку, мовіла: "Ліля".

Лілі 26 год, з узросту свайго ня робіць таямніцу. Колькі год таму навучалася ў Гарадзенскім унівэрсітэце. Да вучобы ў ВНУ атрымала пасьведчаньне кулінара. Гасьціла ў сваякоў у Еленяй Гуры (Польшча), запрыязьнілася з суседкай Ілонай. Тая загітавала Лілю кінуць студыя й паспрабаваць зрабіць кар'еру ў Гэрманіі. "Дадзеныя ў цябе - хоць куды", - даймала Ілона госьцю. "Адразу ж атрымаеш месца кэльнэркі ў прыстойным бары ці кавярні. Праз час зможаш трапіць і да самых фэшэнэбельных рэстарацый. Гэта грошы, камфартабельныя апартамэнты, павага. Канечне, рызыка ёсьць. Але, хто не рызыкуе, той ня мае," - па філязофскі заключыла Ілона.

Падробкай дакумэнтаў, набыцьцём білетаў займалася полька. Тыдзень тэрміну - й дзяўчаты апынуліся аж у Гамбургу. Аднекуль у Ілоны знайшліся знаёмцы югаславы, яны трымалі бліз порту вялікі бар. Працы ў іх было па самае горла. Таму Лілі адразу ж было запрапанавана месца. Гаспадар, якога ўсе клікалі Здэнка, вызначыў ёй абавязкі. Ліля найперш у строі "міні-бікіні" павінна была сядзець у залі, размаўляць з наведвальнікамі ёй забаранялася. Прычына - недакладнае веданьне ангельскай і нямецкай мовы.

Дзяўчо ростам 185 сантымэтраў выклікала ў гасьцей, а былі гэта пераважна матросы, асаблівую цікаўнасьць. Мараманы спрабавалі шуткаваць, рабілі закіды да Лілі. Выконваючы загад Здэнка, дзяўчына маўчала. Настойлівым гаспадар тлумачыў так: "Дзяўчына нямая, яе можна крануцца, выпіць з ёю келішак, бо яна хоць і з экзатычнай краіны, але яго, Здэнка, уласнасьць." Расчуленыя і ўзбуджаныя невядомай "гёрл" з невядомай краіны матросы, здавалася, вачыма гвалцілі Лілю.

Адчуўшы, што час прысьпеў, хітры на выдумусы югаслаў вызначыў Лілі дадатковыя абавязкі: дапамагаць найбольш п'яным дабірацца да пакояў адпачынку, што месьціліся ў склепах бару.

Першую ж крыўду гарадзенка атрымала ад кліента, што здавалася ледзь трымаўся на нагах. Ідучы са спадарожніцай па вузкай лесьвіцы ён ўвесь час прыставаў да яе. Ліля цярпела, ёй хацелася толькі хутчэй выканаць свае абавязкі.

Калі ж у пакоі кліент зусім расхрабрыўся, Ліля спрабавала бараніцца. Ад моцнага ўкуса ён зароў. На крык увайшоў Любамір - правая рука Здэнка. Прысуд быў жорсткі: кліент заплаціў і цяпер можа карыстацца ёю дзьве гадзіны.

Сьвет сьцямнеў у вачох гарадзенскай шукальніцы шчасьця. Усё астатняе было, што ў страшным сьне.

Тыдзень ці болей, пакуль яна не прыйшла ў сябе, Лілю не выпускалі з пакою. Любамір прыносіў ежу й пітво. І заўжды пільна сачыў за рухамі Лілі (баяўся, каб дзяўчына не паранілася нажом ці відэльцам).

Неяк да Лілі завітала Ілона, заспакойвала, гаварыла, што ў гаспадара на яе вялікія надзеі. Ён уплывовы й так проста Лілю не адпусьціць, тым болей, што да гэтага на месцы Лілі была яна, Ілона. Здэнка заплаціў Ілоне за то, што яна здабыла яму пад ідэю экзатычнай чужаземкі такі выдатны тавар. Лепей быць паслухмянай, тады Здэнка адчыніць ёй рахунак у банку. А калі задума з экзатычнай чужаземкай страціць сэнс, Ліля будзе вольнай. Яшчэ Ілона параіла вучыць мовы ў свабодны ад працы час.

Паслугамі Лілі карысталіся як гаспадар і Любамір, так і ўсе ахвочыя. Прыкладна два гады "экзатычная гёл" задавальняла сэксуальную прагу французкіх, амэрыканскіх, гішпаньскіх, японскіх матросаў. Грошы ад Здэнкі на рахунак Лілі йшлі спраўна.

Зараз у гаспадара новая задума. Ліля атрымала вольную й мае вусную дамову з югаславам. Згадаць пра яе не пажадала.

На пытаньне, на вошта тады наша сустрэча, памаўчаўшы, сказала: "Ведаю, што вы напішаце пра мой аповяд, бо ў Горадні, па маіх звестках, многа дзяўчат, якія хацелі б паўтарыць мой шлях. Таму, калі ахвотніцам падаецца, што гэта часова, то хай ведаюць: старажытная прафэсія ў руках тых, хто на гэтым робіць грошы. Гэта - бязтэрміновая няволя, з якой адно выйсьце - магіла."

Праз час Ліля вернецца да Здэнкі. Што ён зробіць з ёй - ня ведае. Можа прадасьць каму, а можа пажадае й далей бачыць Лілю ў ложку з наведвальнікмі бару.

Па жаданьню аўтаркі аповяда ўласнае імя яе зьменена.

**Г.АСТРОЎСКІ.**



Гэта іх апошні сумесны здымак. Я назвала яго "Пяшчота". Сэрцы гэтых людзей біліся разам амаль пяцьдзесят год. Зайздросьце, маладыя! Углядзіцеся ў твары. Тут усё: і каханьне, і вера, і мудрасьць, і боль перанесеных страт, і шчасьце, і ўпэўненасьць, і спакой...

Зусім-зусім хутка яе не стала. Божухна, як гэта жудасна: пражыўшы побач усё жыцьцё, страціць самага блізкага чалавека! Напэўна, разам з ім адыходзіць у нябыт і палавінка тваёй душы, твайго сэрца...

...Жыве на зямлі адзінота. Адзінокі стары. Жыве ўспамінамі й марыць пра той, лепшы сьвет, дзе яго душа зноў сальецца з душой каханай жанчыны...

**Фота А.БІБІКАВАЙ.**

# АПОШНЯЯ СТАРОНКА

## ПАКУЛЬ ЭЎРАПЭЙЦЫ ТРЫМАЮЦЦА

XV чэмпіянат сьвету па футболу ўжо сем дзён крочыць па амэрыканскай зямлі. Як паказалі першыя гульні, барацьба чакаецца надзвычай цікавая. Пакуль, аднак, рана казаць, якія 16 з 24 каманд прадоўжаць спаборніцтвы на другім этапе. Але стартавыя матчы ўжо прынесьлі прыемныя нечаканасьць: эўрапэйскія зборні адчуваюць сябе на амэрыканскім кантыненце сапраўднымі гаспадарамі. Так, футбалісты Нямеччыны з лікам 1:0 перамаглі Балівію, а румыны "падкасілі" аднаго з фаварытаў - Калюмбію (3:1). Бэльгія ўзяла верх (1:0) над Марока, а нарвэжцы перайгралі Мэксіку (1:0). І толькі Расея "ударила в грязь лицом", уступіўшы сымпатычнай камандзе Бразыліі (0:2). Перамагчы бы нашым суседзям "бананавы" Камэрун, інакш іх чакае хуткая дарога дамоў.

## А Ў ФІНАЛЕ - КРУГЛАЯ СУМА!..

Рэкордныя ганарары сваёй каманьдзе ўсталявала футбольная фэдэрацыя Калюмбіі. У выніку перамогі на чэмпіянаце сьвету-94 кожны футбаліст атрымае ад 350 да 400 тысяч даляраў ЗША. У Гішпаніі вырашылі так: усе спонсарскія грошы - 1 мільён 285 тысяч даляраў - будуць разьмеркаваны паміж футбалістамі, трэнерамі, прычым апошнія атрымаюць у два разы болей. Цікава, што галоўным спонсарам гішпанскай зборні стала нацыянальнае тэлебачаньне, якое выдаткавала 304 тысячы. Мільён даляраў атрымае каманда ЗША ў выпадку, калі стане чэмпіёнам сьвету, другое месца ацэньваецца на 100 тысяч меней.

Падлічыла грошы й Расея. За выхад да 1/8 фіналу кожны гулец каманды будзе ўзнагароджаны 40 тысячамі даляраў, за перамогу ў чэмпіянаце сума ўзрасьце да 150 тысяч. Але гэта далёка ня ўсе магчымыя прэміяльныя. Так, фірма "Рекона Проминвест Корпорация" гатова ахвяраваць расейскім футбалістам 1 мільён даляраў, калі толькі тыя сягнуць фіналу.

## ЗА БЭТОННЫМІ СЬЦЕНАМІ ЦІШЭЙ

Гатэль "Шамінад" у горадзе Санта-Круз на беразе Ціхага акіяну стаў рэзідэнцыяй зборні Расеі. Кіраўніцтва расейскай каманды пры гэтым дазволіла работнікам прэсы й балельшчыкам прысутнічаць на трэніроўках, але забараніла рабіць якія-кольвечы рэпартажы.

З іншыдзяці пачалася першая трэніроўка балгарскіх футбалістаў на базе ў Асьціне. Калі дасьціпныя рэпарцёры ўключылі свае відэакамэры, адміністратар каманды кінуўся на рэпарцёраў з кулакамі. Да крыві не дайшло, але журналісты пакінулі стадыён.

Своеасаблівыя й далей ад чужых вачэй рыхтуецца да гульняў яшчэ адна каманда з былога спэцлягеру - Румынія. "Жоўтыя кашулькі" разьмясьціліся ў пяцізоркавым гатэлі "НУАТТ" у Ньюпорт-Біч. Перш-наперш румыны заняліся адаптацыяй да амэрыканскай сьпякоты й дзесяцігадзіннай розьніцы ў часе. Ці паможа ім гэта - пакажа гульня. Між тым, у румынскай зборні на стадыёнах ЗША ёсьць нямала прыхільнікаў. Сярод іх - заўзятар футболу 47-гадовы Валянцін Чаўшэску - сын былога лідара-дыктатара Румыніі.

## ЯК ЗАЎСЁДЫ, ТАМ УСЁ ПРАДУМАЛІ ДА ДРОБЯЗЕЙ

Яшчэ за чатыры дні да адкрыцьця чэмпіянату сьвету ў Новым Ёрку пачаўся "тыдзень рэстаранаў". Гэта значыць, што лепшыя гастранамічныя ўстановы горада пачалі прадаваць комплексныя абеды за 19 даляраў 95 цэнтаў - на палову менш іх звычайнай цаны. Так маркуецца зацікавіць турыстаў, якіх у ЗША чакаецца звыш мільёна чалавек. Пры гэтым ўжо падлічана, што госьці "прывязуць" каля паўмільярда даляраў і яшчэ 65 мільёнаў "зялёных" заплацяць у выглядзе падаткаў. Для абслугоўваньня такой групы турыстаў спатрэбіцца 8400 рабочых месцаў і 130 мільёнаў даляраў.

І толькі знакамітая фірма "ME DONALD'S", здаецца, трохі ўкляпалася, калі выпусьціла каляровыя пляканты з выявай усіх 24 каманд. Гэтая акцыя выклікала абурэньне Саудаўскай Аравіі: згодна з Каранам забаронена паказваць любыя рэчы з сымболікай ісламу.

## ЧЫЯ ЗОРКА ЎСПЫХНЕ ЯРЧЭЙ?

Футбол, безумоўна, калектыўная гульня. Але роля "зорак" у любым калектыве велізарная. Бразыліцы не без падставы разьлічваюць на фантастычнае майстэрства Рамарыа, аргэнцінцы "стаўяць" на Марадону, немцы - на Матэўса й Фёлера, італьянцы - на Рабэрта Баджо, калюмбійцы - на Вальдэраму й Аспрыльо, галяндцы - на Бэрхкампа, расейцы - ... невядома на каго. Справа ў тым, што літаральна перад паездкай у ЗША склад зборні Расеі трэнеру Садырыну прыйшлося абнаўляць. Бязпрэцэдэнтны выпадак: сем расейскіх "зорак" - Кулькоў, Канчэльскіс, Шалімаў, Калыванаў, Кір'якоў, Іваноў і Дабравольскі - адмовіліся выступаць на чэмпіянаце за нацыянальную каманду па той прычыне, што яны ня згодныя з трэнерскай канцэпцыяй Садырына.

Спроба перавароту ў футбольнай Маскве зусім ня новая. Яшчэ ў 1986 годзе "по просьбе трудящихся" група футбалістаў выказала недавер беларускаму трэнеру Эдуарду Малафееву. Таго, зразумела, з санкцыі ЦК партыі зьнялі й паставілі Лабаноўскага з Кіева. Між тым, да чэмпіянату сьвету ў Мэксіцы заставалася толькі тры тыдні. А фінал быў такі: тая зборня СССР з трэскам правяліла першынства.

## НА ШТО СПАДЗЯВАЦЦА БЕЛАРУСІ?

Як сябра ФІФА незалежная Беларусь праз два гады ўпершыню возьме старт у адборачных гульнях чэмпіянату сьвету. Стала вядома, што Францыя ў 1998 годзе прыме не 24, а 32 краіны-фіналісткі. Толькі каб прабіцца ў эліту сусьветнага футболу, прыйдзецца беларусам вельмі нялёгка.

А пэсымізм перш за ўсё зыходзіць са знаёмства з нашым нацыянальным чэмпіянатам, які, дарэчы, завяршыўся ў мінулую суботу. Нагадаю, што чэмпіёнам стала менскае "Дынама", срэбраныя мэдалі ў другой сталічнай каманды - "Дынама-93". Столькі ж пунктаў - 43 - і на рахунку віцебскага КІМу, але ў яго горшы паказчык у графе перамог, таму каманьдзе з берагоў Дзьвіны дасталася "бронза".

Толькі на адзінаццатым радку ў турнірнай табліцы стаіць гарадзенскі "Нёман", які свой апошні матч прайграў з лікам 1:3 чэмпіёну. Першую лігу пакінуў "Будаўнік" са Старых Дарог, а яго месца зойме пераможца другой лігі - лідзкі "Абутнік".

І.Ю.

## ХТО ВЫНАЙШОЎ БЮСТГАЛТЭР

Колькі год бюстгалтэру? За мяжой аб гэтым ідуць нятхнёныя спрэчкі. Адны сьцьвярджаюць - 75 год, другія - 100, а самыя дасьведчаныя лічаць, што гэтаму незамяняльнаму атрыбуту жаночага туалету больш за сто год. Цікава, а што было раней?

Эгіпцянкі не насілі бюстгалтэраў зусім, старажытныя грэчанкі хавалі свае формы пад эластычнымі павязкамі, крыцянкі павязвалі шырокія стужкі пад грудзямі. Рымлянкі з дапамогай скуранога строфія (своеасаблівага бюстгалтэра) сталі заваданткамі моды высокіх грудзей. Затым фактычна да 16-га стагоддзя панаваў карсэтны панцыр з мэталёвымі шарыкамі - дадаткамі для ўзьняцьця бюста. Але й гэта не самае аптымальнае вынаходніцтва. Пры гішпанскім каралеўскім двары прыдумалі сваю моду - дзяўчынкам з маленства прывязвалі да грудзей пласьціны з волава, каб грудзі заставаліся плоскімі.

Сучасны бюстгалтэр зьявіўся напрыканцы 19 стагоддзя. Вынаходнікам яго быў парыжскі мадэльер Чарльз Фрэдэрык Ворс.

(з.д.)



ЛЕТА, АХ ЛЕТА!

Фатаграфавала А.БІБІКАВА.

## КРЫМІНАЛЬНАЯ ХРОНІКА

**Калі ў мінулым выпуску "КХ" давялося канстатаваць аб рэкорднай колькасьці злачынстваў, учыненых за тыдзень, то за апошніх сем дзён зноў назіраецца яе рост. Усяго зафіксавана 198 злачынстваў і, магчыма, ў бліжэйшы час будзе пяройдзена 200-я мяжа. Найбольш крадзяжоў: асабістай маёмасьці - 86 (Горадня - 44, Ліда - 13, Гарадзенскі раён - 9), дзяржаўнай - 44 (Горадня - 12, Ліда - 8, Ваўкавыск - 4), а таксама цялесных пашкоджаньні - 19 (у тым ліку 12 у Ленінскім раёне абласнога цэнтру).**

**З ліку ўчыненых злачынстваў 70 раскрытых. У 12 дарожных здарэньнях двое чалавек загінулі і 10 паранена.**

**КРАДЗЯЖЫ ТЫДНЯ**

Калі ўважліва прааналізаваць апэратыўныя зводкі, то можна заўважыць, што крымінальны "прыбытак" складаецца ў асноўным з крадзяжоў асабістай маёмасьці. Яно й ня дзіўна.

Калі раней аб многіх з іх нават не заяўлялі, бо гэта б выклікала сьмех, то зараз тэлетайпы разпораз прыносяць падобныя весткі.

Ноччу 15 чэрвеня з аўтамашыны ВАЗ-21011, якая стаяла каля дома N10 на Індурскай шашы ў Горадні, скрадзены 4 пачкі цыгарэт і каля 20 тысяч рублёў.

Ці, да прыкладу, крадзёж ровараў. Калі раней на іх не зьвярталі ўвагі - амаль усе крадзяжы ішлі ў "адказнякі", то зараз паўтарамільённыя транспартныя сродкі істотна абцяжарваюць статыстыку. Калі на Захадзе пашыраны крадзяжы легкавікоў, то ў нас - ровараў. Толькі за адзін дзень - пятніцу - зарэгістравана ажно 7(!) крадзяжоў ровараў і толькі два - легкавікоў.

Адкуль толькі не крадуць гэтыя экалагічна чыстыя транспартныя сродкі - з падвалаў, кватэр, а часцей - ад крамаў і месцаў працы пацярпелых.

Аб тым, што крадзяжы ровараў ужо ня лічаць дзіцячым свавольствам, сьведчыць паведамленьне з Ліды, дзе за падобнае злачынства 17-гадовы хлопец зьмешчаны ў ізалятар часовага затрыманьня.

Ды што крадзяжы... На вуліцы Савецкіх Пагранічнікаў у Горадні зафіксавана самае сапраўднае рабаваньне: невядомы злачынец вечарам адабраў трохколавы ровар у дзіцяці і ўцёк.

Ну й часы пайшлі!

**ФІНАЛ "ДРАКОНА"**

Апоўдні ў суботу дзьвум групам захопу, нарэшце, удалося засьпець на "гарачым" знакамітага "Дракона" з двума памагатымі. Як вядома, яго брыгада здымала "мытныя падаткі" пры продажы замежных легкавікоў ля сабора на вул. Ажэшкі. Заявілі ж у міліцыю аб вымагальніцтве 150-ці даляраў трое расейцаў, якія набылі ў Горадні аўтамабілі.

Пакуль скідальскі "ракетчык" на казённым пайку, шлях на Ўсход свабодны.., але ці надоўга?

**НОЧКА ЦЁМНАЯ ПРЫЙШЛА...**

Відавочна, што мэдная ліхаманка захоплівае ўсё больш шырокае кола насельніцтва, у тым ліку й падлеткаў. Так, у Смаргоні трое вучняў мясцовых школ скралі з тэрыторыі раённага вузла сувязі 10 мэтраў кабелю.

А вось іх "калегі" па рамяству з Бераставіцы былі больш вытанчанымі. Дзьве 13-гадовыя дзяўчынкі вечарам схаваліся ў магазіне "Адзеньне", а апоўначы пачалі зграбаць з прылаўкаў касмэтыку, касыцомы, курткі, гадзіньнікі й г.д. Далейшую "экспрапрыяцыю" маёмасьці спыніў нарад аховы...

Г.СЫСОЙ.

## Гарадзенская Вабласная Рада БНФ заклікае

У гэты складаны й цяжкі для нашай Бацькаўшчыны, Беларусі, час, калі ўладныя намэнклятурныя структуры раскрадаюць і распрадаюць здабытак нашага народу, выступаюць супраць беларускай незалежнасьці, мовы й культуры, усім, каму не абыякавы лёс нашай дзяржавы, трэба аб'яднацца пад штандарам Беларускага Народнага Фронта "Адраджэньне". Уступайце ў БНФ!

Пішыце на адрас: 230025, г.Горадня, а/с 139. Тэлефануйце штодзень з 9.00 да 17.00 па тэлефоне 45-41-83.



**"ПАГОНЯ"**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ**

**Заснавальнік:**
**культурна-асьветніцкі фонд "БАЦЬКАЎШЧЫНА".**

**Адрас рэдакцыі: 230023, г.Горадня, вул.Дамініканская, 1.**
**Тэлефоны: 45-29-96, 45-41-83.**
**Газэта выдаецца па пятніцах 4 разы на месяц.**
**Індэкс 63124. Ліцэнзія № 465.**
**Фотанабор, афсэтны друк.**
**Гарадзенская вабласная ўзбуйненая друкарня: 230003, г.Горадня, вул.Паліграфістаў,4.**

Заказ 2565.
Тыраж 3651 асобнік.